
Ключ да культуры➔5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Раіса Самоцік-Сангар➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 33 (3040) Год LIX | Беласток, 17 жніўня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

У чатырох, а не як да гэтага часу ў пяці акругах, жыхары Падляшша вылучаць сваіх радных у ваяводскі сеймік на самаўрадавых выбарах 16 лістапада. Па волі большасці падляшскага сейміка з трыццаці асоб, у межах адной выбарчай акругі нумар чатыры апынуцца паветы, заселеныя беларускай і ўкраінскай меншасцю: Бельскі, Сямятыцкі, Гайнаўскі, Беластоцкі, але таксама і Высока-Мазавецкі, у якім сваю нацыянальную прыналежнасць у рашучай большасці дэкларуюць палякі і каталікі, і які на выбарах быў апорай Права і справядлівасці. Па-за чацвёртай акругай апынуўся Сакольскі павет, таксама населены ў вялікай частцы беларусамі. Падчас пасяджэння сейміка, на якім галасавалі за новае выбарчае раянаванне (4 жніўня) красамоўна не з'явіліся два радныя — беларусы, прадстаўнікі ПСЛ, кіруючага ваяводствам сумесна з Грамадзянскай платформай: Мікалай Яноўскі (на здымку) і віцэ-маршалак Валянцін Карыцкі.


Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# АКРУГА нумар ЧАТЫРЫ

Новае раянаванне было неабходным у сувязі з палажэннямі новага Выбарчага кодэкса 2012 года, асабліва ў пункце аднаго з яго артыкулаў: «Аб'яднанне паветаў не можа парушаць грамадскіх сувязей, якія злучаюць выбаршчыкаў, што належаць да нацыянальных або этнічных меншасцей, якія пражываюць на тэрыторыі аб'яднаных паветаў». Паводле кодэкса, у кожнай акрузе будзе абраных не менш чым пяць радных. З ініцыятывай падзелу — у канчатковым рахунку прынятым большасцю радных — выйшаў маршалак Яраслаў Дважанскі (ГП). Калі б ён гэтага не зрабіў, і сеймік не пагадзіўся б на гэта, ваяводскі выбарчы камісар, заклікаў да аналізу яшчэ раз адхіленага рашэння, а Дзяржаўная выбарчая камісія магла б вызначыць межы акруг па сваім меркаванні.

## Заменная тэма?

Канчаткова ў галасаванні прынялі ўдзел 25 радных. У сейміку працуюць чатыры клубы: ГП (11 дэпутатаў), ПіС (11), ПСЛ (5), СЛД (3). Трынаццаць дэпутатаў выказаліся за прапанову маршалка Дважанскага, так што яго прапанова прайшла толькі адным голасам.

— Адсутнасць у час галасавання радных Яноўскага і Карыцкага кажа сама за сябе, — сказаў журналістам пасля пасяджэння маршалак.

Два дні да гэтай сесіі Мікалай Яноўскі, распытваны «Нівай», што ён мяркуе аб раянаванні прапанаваным маршалкам, сказаў толькі: «Гэта такая заменная тэма, такі манеўр».

Яго клубны калега віцэ-маршалак Мечыслаў Башко ў сеймікавых кулуарах прызнаўся, што ў адпаведнасці з рашэннем ваяводскіх улад яго партыі, было прынята рашэнне не пагадзіцца з гэтай прапановай і выказацца за ранейшым падзелам. Адсутнасць радных Яноўскага і Карыцкага патлумачыў:

— Гэта збег абставін. У некаторых радных ёсць гаспадаркі, уборка ўраджаю, але і вырашалі сямейныя выпадкі.

Дадаў:

— Мы вельмі паважаем нацыянальныя меншасці. Разам з усёй управай за гэтыя сем гадоў, калі мы ў ёй разам з Яраславам Дважанскім пры ўладзе, стараліся дапамагаць меншасцям.

Прадстаўляючы радным канчатковы праект новага падзелу, маршалак Дважанскі патлумачыў:

— Жыхары нашага рэгёна, якія дэкларуюць прыналежнасць да нацыянальнай меншасці, маюць права карыстацца прывілеем (маршалак выкарыстаў такое слова — М. Х.) галасавання ў адной выбарчай акрузе ў выбарах у ваяводскі сеймік. Мае кансультацыі з выбарчым камісарам і ягоныя кансультацыі з Дзяржаўнай выбарчай камісіяй не пакінулі тут ніякіх ілюзій, што змены ў гэтых адносінах у законе, які мае сілу ў нашым ваяводстве, павінны быць зроблены.

Адзначыў:

— Правілы і патрабаванні такія, што нельга дзяліць павет на часткі, калі не выбіраюць там больш за пятнаццаць радных. Такім чынам, размеркаванне вынікае з выбарчай арыфметыкі і многіх падлікаў, якія неаднаразова кансультаваліся і правяраліся (...). Не ўдалося нам распрацаваць прапановы падзелу на пяць акруг у адпаведнасці з гэтымі палажэннямі, якія ляжалі ў аснове гэтага рашэння. У любым іншым варыянце, перасоўваючы паветы ў іншае месца, атрымлівалася ў нас, што ў сейміку будзе альбо 29, альбо 31 радных.

Марэк Камароўскі, старшыня клуба ПіС:

— У кантэксце выбарчых акруг, якія да гэтага часу абавязвалі, некаторыя грамадскія сувязі на перыяд іх абавязвання былі створаны.

Ён спаслаўся на дэзідэрат парламенцкай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей (яе віцэ-старшынёй з'яўляецца падляшскі дэпутат ад СЛД Яўген Чыквін) са снежня мінулага года да міністра адміністрацыі і лічбавізацыі, насупраць якому, на яго думку, выйшла прапанова маршалка. Дэпутаты прапанавалі стварыць акругу, якая складаецца выключна з Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў (аб гэтай прапанове мы пісалі ў пачатку года):

— Такі дэзідэрат не мае ніякай абавязковай сілы (...). Кажуць у ім пра вернікаў Праваслаўнай царквы, значыць, уключаецца ў дыскусію па гэтай тэме яшчэ адзін элемент.

Пры нагодзе выказаў ён шкадаванне, што ў пасяджэнні і ў ходзе папярэдніх сеймікавых нарад па новым раянаванні не ўдзельнічаў ані выбарчы камісар, ані хто з парламенцкай камісіі па нацменшасцях, асабліва дэпутат Чыквін, і не было ніякага істотнага абмеркавання.

Маршалак, спасылаючыся на яго выступленне, заявіў:

— Сувязі, створаныя ў існуючых выбарчых акругах, датычаць хутчэй кампанейскіх сувязей, а не нацыянальных.

## Новае адкрыццё

Да ўвядзення рэлігійнага матыву ў дэзідэрат сеймавай камісіі аднёсся ў рэзкіх словах радны Ян Хайноўскі, віцэ-старшыня сейміка ад ПіС, былы сенатар:

— Мы жывем побач адзін з адным. Мы суседзі па пад'ездах, з-за мяжы, з-за плота. Мы такія ж паслядоўнікі Хрыста, дык нашто тут уводзіць рэлігійны элемент, я не разумею. Сеймавую камісію па меншасцях нічога не цікавіць: ані агульнае дабро, ці дабро Польшчы. У іх ёсць толькі раздражняльныя пастулаты. Гэты праект рэзалюцыі сейміка шкодны якраз для нашых сацыяльных сувязей, для суседскіх, і гэтак далей. Нашто кранаць тое, што добра функцыянавала да гэтага часу?

Ян Сычэўскі, віцэ-старшыня сейміка, член клуба СЛД, выказаўся за новы падзел, хоць і прызнаў, што не ў поўнай меры задаволены гэтым, таму што ў акрузе № 4 не апынуўся Сакольскі павет, часткова таксама населены беларускай меншасцю. Пасля галасавання, у гутарцы з журналістамі, сказаў:

— Я галасаваў за новае раянаванне ў сувязі з тым, што яно больш, чым дасюлешняе, улічвае інтарэсы меншасцей, у прыватнасці беларускай. Беларуская меншасць мае новае палітычнае адкрыццё з пункту гледжання магчымасці ўвядзення сваіх прадстаўнікоў у падляшскі сеймік. Той факт, што ў акрузе № 4 апынуўся Вы-

працяг ☞11

**САМАЎРАДАВЫЯ ВЫБАРЫ 2014 — ПАДЗЕЛ НА АКРУГІ:**

**Выбарчая акруга № 1 (7 радных)** — горад Беласток.
**Выбарчая акруга № 2 (8 радных)** — горад Сувалкі, паветы: Сувальскі, Сейненскі, Аўгустоўскі, Сакольскі, Монецкі.
**Выбарчая акруга № 3 (6 радных)** — горад Ломжа, паветы: Ломжынскі, Кольненскі, Граеўскі, Замброўскі.
**Выбарчая акруга № 4 (9 радных)** — паветы: Сямятыцкі, Бельскі, Гайнаўскі, Беластоцкі, Высока-Мазавецкі.





# Агрэсія

Улада чамусьці заўсёды думае, што менавіта яна абавязкова выжыве, што б там не сталася з іншымі. Маўляў, увесь свет можа загінуць, але яе, уладу, гэта абміне. Чаму людзі пры ўладзе такія самаўпэўненыя, даўно разгадалі мысліцелі яшчэ з незапамятных часоў. Сакрэт тут просты. Неабмежаваная ўлада прытупляе інтэлект, нават калі такі быў да моманту прыходу да ўлады, і ў дадатак надзяляе свайго гаспадара пачуццём поўнай беспакаранасці за свае ўчынкі. Ды вось гісторыя даказвае акурат усё наадварот.

Сёння свет стабільна дрэйфуе ў бок новай сусветнай вайны. І гэта не таму, што нехта нечага не падзяліў, што нацсамрэч Расія не хоча пускаць Украіну ў Еўропу ці сапраўды лічыць Крым калыскай расійскай цывілізацыі. Гэты кірунак на вайну быў абраны ўжо дваццаць гадоў таму, калі з блакітных экранаў зомбаскрынак упершыню ілжывыя і падхалімныя тэлепрапагандысты шэрагу постсавецкіх рэспублік, у лік якіх уваходзіць і наша любая Беларусь, пачалі ствараць вобраз знешняга і ўнутранага ворага і актыўна сталі сеяць нянавісць ды агрэсію.

Дастаткова ўключыць тэлевізар або ўзяць у рукі дзяржаўную прэсу, як адтуль вадаспадам хлыне нічым не прыкрытая нянавісць. Фразы „пятая калона", „заходнія фінансатары", „спробы раскалыхаць нашую стабільнасць" і яшчэ безліч падобнага сталі ўжо звыклымі прапагандысцкімі штампамі. Без іх матэрыял не ва ўсякага дзяржаўнага агітатара можа атрымацца, нават калі тычыцца зусім непалітычнага кірунку. А як кажуць, кропля камень точыць. Дваццаць год капання на мазгі не праходзяць проста так. Людзі становяцца агрэсіўнымі па сваёй сутнасці. І гэтая аб'яднаная шматмільённая агрэсія мусіць у нешта выліцца. У тым ліку і ў вайну.

Менавіта адсюль узялася такая масавая падтрымка рускімі палітыкі Пуціна, захоп Крыма, падтрымка сепаратыстаў ва Украіне. Менавіта адсюль вырастаюць падтрымка смяротнага пакарання, жорсткасці ўлады і жорсткасці ўвогуле.

Зусім нядаўна быў я ў Швецыі. Звярнуў увагу на вялікую групу дзяцей, што гулялі ў цэнтры горада. Дзеці як дзеці. Такія як нашыя — носяцца, скачуць, смяюцца. Толькі нешта ў іх было крыху не так, як у нас. І, station паназіраўшы за імі даўжэй, я зразумеў што. Яны не пхаліся, не збівалі адзін другога з ног, не прычынялі адзін другому аніякага болю. Проста адсутнасць агрэсіі ў тамашнім грамадстве аўтаматычна паўплывала і на адносіны дзяцей паміж сабой. І іхным бацькам і ў галаву не прыходзіць вучыць сваіх дзяцей умець пастаяць за сябе, даць здачы, адказаць ударам на ўдар. Няма каму адказваць. Ніхто з іх не ўяўляе патэнцыйнай пагрозы для іншага.

Зразумела, што за стан павышанай агрэсіі ў грамадстве адказвае ўлада, і толькі ўлада. Ды яе прапагандысцкія службі, што не могуць і адной фразы вымавіць, каб не абазваць кагосьці фашыстамі, агрэсарамі, ворагамі... Эпітэтаў безліч. І выказваюцца яны з непрыкрытай інтанацыяй нянавісці. Усё, што можа зменшыць напружанне ў грамадстве, даўшы альтэрнатыўную кропку гледжання, проста выкідваецца з тэлеэфіру. Прапалі польскія каналы, украінскія... Застаецца толькі тое, што ўзмацняе напружанасць і агрэсію.

І агрэсія квітнее. Шафёры не ўступаюць дарогу адзін другому, дзеці штурхаюцца, людзі глядзяць на іншых як на канкурэнтаў, прадавачкі лаюцца на кліентаў, ахоўнікі збіваюць наведвальнікаў супермаркетаў, кожны знеслаўляе кожнага... У людзей кардынальна змяніўся менталітэт і стаўленне да сусвету. Ад усеагульнай добразычлівасці і любові ён пераключыўся на пошук ворага, вобраз якога так доўга праз свае сродкі масавага замбавання нам стварала ўлада. Людзі зараз насамрэч шчыра думаюць, што ўсе на свеце не спяць і толькі плануюць, якую нам зрабіць шкоду. І нават не здагадваюцца, што большасць людзей планеты ўвогуле не ведаюць пра нашае існаванне.

Але ўлада, высяваючы ў грамадстве агрэсію, якую хоча выкарыстаць у сваіх інтарэсах, не ўлічвае аднаго галоўнага моманту, што гэтая ж сляпая і бяздумная агрэсія, у момант свайго піку, можа жорстка і бязлітасна змесці яе ствaральнікаў як цунамі папяровы караблік, так што ад іх і ўспаміну не застанецца.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Вайна і мір



Паўтараю ўпарта, што ёсць кепска. І не толькі таму, што пуцінская варварыя бушуе па Украіне. Перш за ўсё дрэнна таму, што пушчаная ў рух машына вайны не можа быць спынена з дня на дзень. Нават Пуцін не можа гэтага зрабіць. Гэта пытанні лагістыкі, прапаганды. Гэта ваенныя працэдуры. Гэта перанакіраванне эканомікі на патрэбы арміі. Гэта дзясяткі, калі не сотні тысяч людзей, непасрэдна ўцягнутых у падтрыманне ваеннай машыны ў найвышэйшай гатоўнасці. Яе гашэнне ўяўляе сабой працяглы працэс і вельмі ён дарагі. Ці Расія гэта можа сабе дазволіць? Ці Расія можа сабе дазволіць на мір?

Практычна межы паміж Еўропай і Расіяй ужо даўно перарывістыя. Гэта ляжала ў інтарэсах абодвух бакоў. Старанна гэта выкарыстала пуцінская агентура. Вядома, што яна пракралася амаль да каранёў дзяржаўнага стану ўсіх краін былога савецкага блока. Акрамя таго, нельга сумнявацца, што таксама глыбока пранікла яна ў прамыслова-банкірскія асяроддзі Германіі або Вялікабрытаніі. А яны ў сваю чаргу ўплываюць на палітыку сваіх урадаў. Здавалася б, еўрапейская палітыка ва ўсім здамінавана стратэгічнымі інтарэсамі Расіі. Прыклад беспакаранасці ў раздзіранай Украіне — лепшы доказ таму. Быццам бы Еўропа абураная гэтым, быццам накладвае далейшыя санкцыі на пуцінскія ўлады, і, больш за тое, нават смела прымае расійскія контрсанкцыі, але і так мы ўсе ведаем, што палітычны баланс страт з абодвух бакоў дакладна эканамічна скалькуляваны. Расія і Еўропа — сінергетычны арганізм. Значыць, арганізм так настроены адзін да аднаго, што яго раздзяленне было б магчыма толькі ў выніку вайны, а вайна, у сваю чаргу, прынясе незлічоныя страты кожнаму боку. Таму мір у Еўропе гэта гандлёвы дагавор з Расіяй. Для Еўропы Расія з'яўляецца прадказальным пастаўшчыком энергіі і трохсотмільённым рынкам спажывецкіх тавараў, уключаючы прадукты харчавання і састарэлых тэхналогій. А для Расіі Еўропа з'яўляецца невычэрпнай крыніцай капіталу. Гандлёва-эканамічны абмен паміж гэтымі арганізмамі заснаваны ад пачатку на ўстойлівым дысбалансе, які складаецца ў тым, што абодва бакі згодныя на невялікі адмоўны баланс: Расія залежная ад еўрапейскага капіталу, Еўропа залежная ад расійскіх энергарэсурсаў. Толькі што Расія абараняе свае жыццёвыя інтарэсы за кошт пашырэння агентурнай бачнасці ў краінах ЕС. Еўропа, воляй-няволяй, фінансуе расійскую агентуру ў сваіх межах, паколькі паступова ставіць сябе ў залежнасць ад расійскага газу, нафты і іншых стратэгічных сыравінных матэрыялаў. Акрамя таго, яна хоча мець цалкам адкрыты расійскі рынак за свае грошы і тэхналогіі. Гэта таксама вымушае на ёй саступкі перад Расіяй. Такім чынам, сінергетычныя сувязі арганізмаў паглыбляюцца. На жаль, гэта робіцца не на ўзроўні агульнасці інтарэсаў Еўрапейскага Саюза, але нацыянальных інтарэсаў асобных краін ЕС. Так вось еўрапейскія санкцыі супраць Расіі не кампенсуюць расійскіх санкцый супраць Еўрасаюза. У гэтым выпадку прынцып устойлівага дысбалансу працуе на карысць Расіі.

Таму няма чаго падманвацца — для сытых немцаў ці французаў палякі здаюцца быць заблуканым у іх культуру племем гунаў. Такое пагардлівае стаўленне маюць таксама для большасці краін ЕС былога савецкага блока. Радаслаў Сікорскі са сваімі англасаксонскімі ладамі, Дональд Туск пабратаны з Ангелай Меркель — гэтага недастаткова, каб англічанін або немец убачыў у паляку роўнага сабе еўрапейца.

У кантэксце нацыянальных эгаізмаў Польшча павінна вырашыць сур'ёзную праблему. Расіі ўсё адно, у каго будзе купляць яблыкі, ды хутчэй у немцаў ці французаў, чым палякаў. Гэта з гэтых краін бярэ сучасныя тэхналогіі і капітал. Хацеўшы купіць тэхналогію, тым прасцей дасць сабе ўціснуць стэрылізаваныя пестыцыдамі яблыкі з Бельгіі ці Нямеччыны. Што Польшча можа прапанаваць Расіі? Ніяк не больш, чым працуючы кругласутачна пагранічны шопінг. Праўда, гэта крамы з добрай польскай ежай, але і з электронікай, кітайскай ці заходняй. У любым выпадку, не польскай. Дарэчы, тыя ж самыя крамы таксама належаць заходняму капіталу. Дык што Польшча можа прапанаваць Расіі? Нічога, а папраўдзе ўсё. Значыць, альбо вайну, альбо мір.

**Міраслаў ГРЫКА**

## Вачыма еўрапейца



# Падляшша адкрытае

Што і раз рознага тыпу няўрадавыя ці самаўрадавыя арганізацыі абвяшчаюць конкурсы, датычныя мультыкультуралізму і ўсялякіх разнастайнасцей — падляшскага багацця. Нядаўна Цэнтр падтрымкі няўрадавых арганізацый (ЦПНА — OWOP) у Беластоку разам з Ваяводскай управай Падляшскага ваяводства запрасілі прадпрымальнікаў, прадстаўнікоў мясцовых органаў улады, грамадскіх дзеячаў, працаўнікоў культуры і навукі прыняць удзел у конкурсе «Падляшша адкрытае». Як заяўляюць арганізатары, ён накіраваны на садзейнічанне людзям і ініцыятывам з Падляшша, якія — спасылаюся літаральна на арганізатараў — паважаюць рознасць іншых культур, чэрпаюць з разнастайнасці нашага рэгіёна, аб'ядноўваюць жыхароў праз межы, будуюць дыялог, навучаюць культуры супрацоўніцтва, вядуць бізнесовыя, навуковыя і культурныя мерапрыемствы з іншымі краінамі. Конкурс праводзіцца ў трох галінах: трансгранічнасць, мультыкультуралізм, грамадскі капітал, ды ў дзвюх катэгорыях: асоба і ініцыятыва. Дзеянні ўдзельнікаў ацэніць Капітул, прызначаны арганізатарам конкурсу, значыць ЦПНА. Будзе ён ацаняць: узаемадзеянне ідэй (напрыклад, уклад ва ўмацаванне канкурэнтаздольнасці рэгіёна, культурнае, эканамічнае, грамадскае развіццё, уплыў на прасоўванне рэгіёна/меаца, паляпшэнне якасці жыцця жыхароў, прыцягненне грамадскасці, інтэграцыя грамадскасці рэгіёна/рэгіёнаў.) — 0-10 балаў; устойлівасць супрацоўніцтва/ дзеяння (доўгатэрміновыя і сацыяльна-эканамічныя вынікі прынятых мер, магчымасць працягвання і пашырэння супрацоўніцтва) — 0-5 балаў; транснацыянальнае сектаральнае супрацоўніцтва (напрыклад, стварэнне партнёрскіх адносін, карысці адчувальныя па абодвух баках мяжы, перадача ведаў, ноў-хаў, добрыя практыкі) — 0-5 балаў; інавацыйнасць (напрыклад новая якасць рэалізаваных ініцыятыў, арыгінальнасць, праект, заснаваны на новай ідэі, ідэя, задума, якая ў галіне асноўнасці і формы ўтварае новае на тэрыторыі і ў асяроддзі дзеяння) — 0-5 балаў. У рамках ацэнкі можна атрымаць максімум 30 балаў. Капітул будзе прызначаць балы на аснове прадстаўленых у заяве апісання, дакументацыі (фота, відэа ці мультымедыйная прэзентацыя, і г.д.) ды будзе ўлічвацца інтэрнэт-галасаванне.

Я спытаўся ў Катажыны Латоўскай з ЦПНА, які сэнс арганізацыі конкурсу, якія прынясе ён вынікі:

— Гэты конкурс з'яўляецца адным з многіх элементаў, якія мы прапануем у кантэксце ўсяго праекта. «Падляшша адкрытае» гэта таксама назва аднаго з раздзелаў стратэгіі Падляшскага ваяводства. У гэтай частцы стратэгіі разглядаюцца тры аспекты: мультыкультурнасць, трансгранічнасць і грамадскі капітал. Гэта найменш апісаны, больш падрабязны фрагмент стратэгіі. Конкурс з'яўляецца часткай праекта з цэлым. Мы хочам, каб жыхары паведамлялі аб усім, што яны звязваюць з адкрытасцю. Мы не навязваем ніякай формы, якая з ёю асацыюецца.

Па выніках конкурсу, але і іншых формах у рамках праекта «Падляшша адкрытае» (публічныя дэбаты, палявыя гульні, і г.д.), спецыялісты з ЦПНА маюць намер удакладніць ваяводскую стратэгію:

— Мы дакладзем да яе канкрэтныя задачы, а раней прадставім яе грамадскай ацэнцы. Запрашаем прыняць удзел у праекце, у гэтым конкурсе, таксама нацыянальныя меншасці, арганізацыі і прыватныя асобы.

Заявы на конкурс можна падаваць да 30 верасня. У справе ўдзелу ў конкурсе можна кантактавацца з арганізатарам па адрасе вул. кс. Абрамовіча 1, 15-872 Беласток, па інтэрнэтным адрасе: www.owop.org.pl і па тэл./факс: 85 732 28 46.

Я так сабе думаю, што, мабыць, было б добра, каб беларусы (беларускія арганізацыі, беларускія асобы) заявілі сваіх кандыдатаў у гэтым конкурсе. У рэшце рэшт, хто, як не тутэйшыя беларусы маюць ведаць, што з'яўляецца найлепшым у мясцовай мультыкультурнасці або трансгранічнасці рэгіёна і што павінна абазначаць на практыцы канцэпцыя адкрытасці.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Зайздрасць у адпаведнасці з законам


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Каб меў пісталет, застрэліў бы гада, — кажа Яраслаў Г. Гэта пра суседа, які да нядаўна быў „добрым чалавекам”. За пяць гадоў суседства паміж імі не было сваркі, непаладак. Наадварот, часам выпівалі ў альтанцы ды гаманілі пра палітыку і людзей са свету...

— І тут, мабыць, штось ляпнуў, — думае ўголас мой герой, — перабраў у словах.

Яраслаў Г. — чужынец сярод аднапляменцаў. На час сустрэчы са мной ён апрануўся ў беларускую вышыванку. Набыў яе на археалагічным фэсце ў Збучы.

— Нашы людзі гэтага не цэняць, — кажа з горыччу. — Пытаюць, ці ўжо ў якім калектыве з бабулькамі не спяваю?!

Бо хоць ён адной нацыянальнасці і веры, што і ўсе ў вёсцы, для мясцовых ён *пан* з Варшавы, навалач. Усё, што прыдумае, адразу раскрытыкуюць, а пасля падбіраюць як сваё.

Яраслаў Г. — першапраходзец па агратурызме ў Н. Такія заўсёды дастануць у гомэль. Кажа, што да яго прыездy ў вёсцы адно кароў даілі і наракалі на *еўропу*. А зараз ужо трох чалавек агратурызмам займаюцца. Мужыкі разбагацелі. Адзін перад другім машынай хвастаецца — у каго даражэйшая. А ўжо найбольш той сусед, які нарабіў яму смуроду.

Яраслаў Г. ведае, як гэта ўсё скончыцца.

— Трэба мне ўсё кінуць і з'язджаць адгэтуль, — падводзіць сваю апошнюю паразу, — бо я тут як прычапі кабыле хвост. Зрабіў справу і *довімдзеня!*

* * *

У Н. ехала я па новай веласіпеднай сцежцы. Навокал дарогі распасціраліся квяцістыя лугі, дзе-ня-дзе сушылі сена. Яго духмяна-зёлкавы пах, птушыны спеў над галавой, прыемны жнівеньскі ветрык у трыццаціградусную спёку — усё гэта прыводзіла мне на думку адно: рай на зямлі. Дзесяці ў палове дарогі абмінула мяне брычка са шчаслівымі пасажырамі. Яны ветліва і сардэчна памахалі ў мой бок рукамі на знак братэрства. Пасля абмінуў мяне аўтамабіль, з уключаным на ўсю катушку Радыё Рацыя. З прымача сачылася сексоўная музыка ў выкананні Зміцера Вайцюшкевіча. *„І тут жывуць людзі”* — у мае мазгі заскочыў таблоід з радзімага панадворка. Вельмі ж смакавалі беларуская прыгожасць і шчасце. Праўда, я сама не здзіўлялася дарожным знакам. Хутчэй за ўсё гэта была падказка, што еду ў добры бок.

Карацей, пансіянат Яраслава Г. называўся „Салаўінае гняздзечка”.

Ды ехаць на інтэрвенцыю ў такі паэтычны эдэм аж свярбела.

Але дзе многа шчасця, там і абавязкова д'ябал.

Перад Н. лопнула шына ў маім ровары. Пасля, калі я спрабавала правесці міні-апытальнік у напатканай старажылкі пра сканфліктаваных суседзяў, тая пачала распавядаць пра буслоў:

— *Штось то будэ!* — заявіла яна тонам шаманкі.

Паводле мясцовага коду гэта значыла больш чым значыла: будзе вялікая бяда. Дзень да *Ільі* чатыры буслы каля трансфарматара страцілі жыццё. Такога не памятаюць найстарэйшыя людзі, нават Настуся, якой на *Пакровы* 103 гады будзе.

— А тую агратурыстыку чорт прыдумаў, — плюнула яна ў бок пансіяната. Што гэта значыць? Вельмі шмат, а можа і ўсё:

— Замест працаваць як людзі, яны там п'юць і гуляюць да белага рання!

* * *

Абвінавачаны Марк С., сорак тры гады, разведзены. Ён жа ўласнік „Шчаснага прыпечка”, ён той сусед Яраслава Г., які спачатку быў „добрым чалавекам”, а зараз ён агідны „гад”, з якім трэба зрабіць парадак, значыць, застрэліць.

Спадар Марк не пусціў мяне на парог свайго „Шчаснага прыпечка”. Мы толькі пагутарылі ля ягонай брамы, аздобленай аленевымі рагамі. Праз прыадчыненую фортку на пастрыжаным дагала панадворку я пабачыла двух лысых дачнікаў. Крутыя маладзёны напаміналі герояў фільмаў пра мафію. У цені пад яблынькай стаялі іх квадрацыклы.

— Мае госці ажно ад Варшавы, — аб'явіў з гонарам Марк С.


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— З Прушкава?

На апошняе пытанне не было адказу.

Уласнік пансіяната „Шчасны прыпечак” заявіў, што не патрабуе рэкламы. А калі ідзе пра яго суседа — дык усе ў Н. ведаюць, што гэта „чмутар”.

І дадаў:

— Я праз яго сваю жонку страціў...

Апошняе прызнанне мела ў сабе настолькі вялікі зарад крыўды, што чалавек думаў пра найгоршае, значыць, сямейную здраду.

— Дык не, — адразу патлумачыў гаспадар, — ніякай тут здрады не было. Пасля хвіліны сам сабе запярэчыў. Бо ў рэшце рэшт высветлілася, што гэта была здрада „псіхічная”.

— Яна ўсё мяне параўноўвала да таго *варшавякі...* А ён тое мае, а ён тое зрабіў, а ён туды паехаў...

Пра смуродны скандал Марк С. слоўца не піснуў. Быццам яму шаманка, што варажыла з буслоў, мову адняла. Мясцовыя людзі ведаюць як сабе дапамагчы ў крытычны момант.

— Хай суд разбярэцца хто тут вінаваты. А то яшчэ чаго нагавару і супраць мяне будзе...

* * *

Ды само здарэнне папярэдзіла вялікая ціш. Ад рання спадарыня Эліза, жонка Яраслава Г., выглядала суседа. Яна смажыла шчупакоў і пякла куньпы пад прэстыжных гасцей. У гэты раз у іх „Салаўінае гняздзечка” запрасіліся дачнікі ажно з Бельгіі. Страх і прэстыж наперамен калацілі сэрца гаспадыні. Ці ўсё атрымаецца як трэба? І чаму той сусед не прыходзіць? Ён пакаштаваў бы далікатэсы, падказаў сёе-тое.

Жаночая інтуіцыя нашэптвала, што нешта адбываецца не так. Добры сусед са „Шчаснага прыпечка” ніколі не прапусціў такой нагоды! Ён заўсёды раіў і дапамагаў, прыносіў дровы з вішні або алешніку, каб атрымаліся найлепшыя ў рэгіёне *вэндзонкі*. Раз нават конкурс у Беластоку выйгралі. А тут няма, прапаў, згінуў. Ці можа захварэў? Два дні таму ў Н. бачылі як кніжкі нейкія пад пахай нёс. Што гэта значыць? Можа пра гісторыю гэтай зямлі збіраецца апавядаць турыстам?

Так ці інакш Марк С. увесь тыдзень прасядзеў з носам у кніжках. У міжчасе ён абзваніў усе ўстановы, які займаюцца аховай прыроды. Працаўніца ландшафтнага парку памятае як пытанні з Н. убілі яе ў крэсла:

— Ён патрабаваў інфармацыю дзе дакладна ў іх вёсцы можна выліць септык, якую трэба захаваць адлегласць ад будынкаў, дакладна, што да сантыметра... Мне нават спадабалася, — прыгадвае жанчына, — што гэта такі акуратны чалавек. Нядаўна заняўся агратурызмам і ўжо лідараў даганяе. Во, дзе акуратнасці і прадпрымальніцтву павучыцца!

* * *

У гэты вечар, калі прыехалі важныя госці ажно з Бельгіі, пансіянат „Салаўінае гняздзечка” спачатку напамінаў гай у месяцы маі. Гаспадар і гаспадыня не толькі пераапрануліся ў беларускія касцюмы, яны яшчэ прывіталі дэлегацыю хлебам і соллю на вышываным ручніку. На ражне сквірчэў ужо тоўсты баран, якога падалі з хрэнам пад змарожаную самагонку, запраўленую чартапалохам. Прыехалі таксама музыканты з гармонікам і бубнамі. Калі трэснулі польку-„беларускую”, здавалася, жыць, не паміраць. Гуляй душа — няма пекла.

І няма д'ябла...

У гэты салодкі і раскошны момант актывізаваўся „добры чалавек”, значыць, сусед са „Шчаснага прыпечка”. Ён нават не адказаў на прывітанне Яраслава Г. Сеў за руль свайго трактарышча, зачапіў асенізацыйную бочку і, як злы вецер, пагнаў са свістам у поле. Ён акружыў вёску і загароддзем наблізіўся пад сядзібу Яраслава Г. Праз нейкі час нешта там адмерваў крокамі, дапасоўваў. Далей здарылася тое, што не павінна здарыцца. Аднак жа... Уласнік „Шчаснага прыпечка” хлюснуў увесь свой ядавіты гной з асенізацыйнай бочкі пад плот захопленай у гульбішчы канкурэнцыі. Праз гадзіну ў пансіянаце „Салаўінае гняздзечка” ўсе талеркі былі ўжо прыбраны. У наваколлі ядавіты смурод стаяў яшчэ некалькі дзён, але ўсе маўчалі. Нібыта, найбольш вінаватыя госці з Бруселя.

Сам Яраслаў пакуль не ведае, што рабіць, што думаць. У суд ён не пойдзе, тут усё адбылося ў адпаведнасці з законам. Адлегласць ад яго панадворка, да скажонага поля была захаваная што да сантыметра.

Ева СЦЕПАНЮК

# Пенсіянеры над Семяноўскім возерам

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) пражывае многа пенсіянераў і яны маюць сваю арганізацыю. Раённы аддзел Польскага саюза пенсіянераў (ПСП) у Нараўцы — адзін з самых актыўных на Беласточчыне. Старшынстве ёй настаўніца-пенсіянерка Ядвіга Карпюк. Члены праўлення аддзела ПСП — людзі вельмі актыўныя. Найбольш дапамагаюць старшыні Люцына і Аляксандр Зданоўскія, Аляксандра і Антон Конкелі, Галіна і Сяргей Бандарукі, Яўген Смольскі, Мікалай Варанецкі, Павел Леўша і Юрка Кісялеўскі.

Даволі часта ладзяць яны сяброўскія сустрэчы, пікнікі, краязнаўчыя экскурсіі (былі таксама замежныя), сустраканне вясны і развітанне з летам, сустрэчы з паэтамі Нараўчанскай гміны, Дзень сеньёра і іншыя культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

У суботу, 19 ліпеня г.г., арганізавалі летняе гулянне ў клубе „Карына" побач Семяноўскага возера. На сяброўскую сустрэчу былі ахвотныя з розных вёсак Нараўчанскай гміны (сярод іх былі і солтыс Новага Ляўкова, і гмінны радны з Міклашэва, і ніўскі карэспандэнт, ён і паэт, з Альхоўкі). Войт Нараўчанскай гміны даў аўтобус, які 32 асобы прывёз на мерапрыемства і адвёз дадому.

Прыемна было сабрацца гуртам у летні дзень пасля поўдня ў даволі вялікім памяшканні, у якім зусім не адчувалася спёкі, якая стаяла на дварэ. Тут уключылі музыку да танцаў. Былі гэта беларускія мелодыі — выбраныя самыя прыгожыя папулярныя песні. Іх рытмы падабаліся пенсіянерам.

Найперш быў пачастунак. Усім смакаваў апетычны гарачы бігас з кавалкам добрай кілбасы і бульбай. Удоваль было ахаладжальных напіткаў. Апрача таго была кава. Праз нейкі час падалі яшчэ іншыя стравы.

Калі ўсе падсілкаваліся, пайшлі танцаваць. Тут ужо крыху раней пачалі танцаваць пенсіянеры, якія прыехалі сюды з Гарадка. Месца хапала для ўсіх. Колькі ж было ахвотных да танца! Так і рваліся ўсе. Панавала сардэчная і прыемная атмасфера.

У той самы дзень за ракою Нарвай у Бандарах адбывалася „Бандароўская гасцёўня". Адтуль плылі звонкія беларускія песні. І нараўчанскія пенсіянеры паехалі туды. Паспелі паслухаць выступленні мастацкіх калектываў, між іншым, „Цаглінак" са Старога Ляўкова, „Арт-Пронара" з Нарвы і „Прымакоў" з Міхалова.

Мігам праляцелі праведзеныя ў грамадзе гадзіны. Такія інтэграцыйныя сустрэчы патрэбныя. Гэта паратунак ад горкага жыцця ўдовам і ўдаўцам у сумным адзіноцтве. Раённы аддзел ПСП у Нараўцы многа робіць дзеля таго, каб пажылыя людзі маглі павесяліцца на сяброўскіх вечарынах, арганізоўвае краязнаўчыя экскурсіі.

Варта дадаць, што неўзабаве — бо 10 жніўня — пенсіянеры паедуць у Цехановец на Свята хлеба і, вяртаючыся назад, заедуць на Святую Гару Грабарку. У верасні плануюць культурна-забаўляльнае мерапрыемства „Развітанне з летам" і — каб было крыху лірычнае — запросяць на яго паэтаў. Потым будзе Дзень сеньёра.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**




Народным беларускім танцам вучыліся дзеткі і моладзь з Беларусі і Польшчы

**Беларускія этнаграфічна-музычныя майстар-класы «Лета з традыцыямі», якія ладзіць на сваёй тэрыторыі Музей малой айчыны ў Студзіводах, здабылі ўжо заслужанае прызнанне ў дзетак, моладзі і бацькоў. Прымалі ў іх удзел вучні з Польшчы, Рэспублікі Беларусь, а таксама з іншых краін, якіх бацькі — выхадцы з Бельшчыны. На XI выпуск «Лета з традыцыямі», які адбыўся ў ліпені, прыбыла моладзь з Беласточчыны, Варшавы, Кобрына і Хаціслава, што на Палессі, разам каля 30 асоб.**

Вучні выяўлялі задавальненне, што маглі вучыцца традыцыйным заняткам продкаў, даўнім песням і танцам. Завязаліся міжнародныя знаёмствы, а малады люді прыемна праводзілі час у вялікай кампаніі. Інструктары майстар-класаў вельмі высока ацанілі ткацтва і вышыўку народнай ткачыхі Сцепаніды Сцепанюк з Дарапіевіч, распаложаных каля Маларыты. Выстаўка яе работ была адкрыта ў вясковай хаце Студзіводскага музея падчас падвядзення вынікаў дзейнасці летніх майстар-класаў. Бабуля Сцепаніда вучыла дзетак і моладзь беларускаму народнаму ткацтву.

Калі я прыехаў у Студзіводскі музей, вучні і іх апекуны знаходзіліся ў мяшчанскім доме, музейнай вясковай хаце і на прымузейным панадворку, рыхтуючыся да завяршальнай сустрэчы, на якую прыбылі сямейнікі ўдзельнікаў майстар-класаў.

— Арганізаванне майстар-класаў «Лета з традыцыямі» поўнасцю апраўдалася. Вучні з Бельшчыны і прыезджая моладзь не толькі вучацца рукадзеллю, якое ў мінулым было паўсюдным з'явай, але таксама знаёмяцца з беларускім фальклорам, народнымі танцамі і песнямі, якія ў нас спяваліся. Мы стараемся зацікавіць мінуўшчынай, каб удзельнікі нашых летнікаў пасля самі цікавіліся жыццём сваіх продкаў, якое адбывалася ў згодзе з натурай, — сказаў Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах».

Спачатку сабраныя паглядзелі выстаўкі прац удзельнікаў летніка. Найбольш работ састаўлялі вырабы з саломы, але былі там таксама вытканыя з удзелам моладзі ручнік і кусок палавіка. Сцепаніда Сцепанюк расказала пра свае тканыя вырабы і вышыўку, якія прывезла на выстаўку. Прэзентаваліся жаночая і мужчынская вопратка і ручнікі.

— Ткала я з дзяцінства, а гэтаму занятку навучылася ад сваёй мамы. Тку таксама і цяпер, у Маларыцкім доме творчасці вучу ткаць маладых. Мае работы паказваюцца на выставах у Беларусі, а сюды я прывезла вырабы з беларускімі народнымі ўзорамі. Ткаць узоры намнога больш складана, чым іх вышыць і таму я таксама стала вышываць узоры, — гаварыла спадарыня Сцепаніда. — Тут мы, разам з дзеткамі, выткалі ручнік з мясцовым узорам (з Краснага Сяла — А. М.). Дзеля такой працы патрэбная была вялікая ангажаванасць дзетак, якія цярпліва працавалі.

— Найбольш складана было выканаць аснову для ткання, а пазней мы цярпліва запаўнялі яе адпаведнымі ўзорамі, — заявілі Аляксандра Зінкевіч і Інэса Гапанюк.

Аляксандра займаецца ў тэатральным калектыве «Антракт», што дзейнічае пры Бельскім доме культуры, а Інэса — спявачка малодшай групы «Жэмэрвы». Дзяўчаты таксама ахвотна вучыліся народным песням і танцам.

— Некалькі маіх унукаў, у тым ліку і Інэса, займаліся тут на летніку і яны вельмі задаволеныя вучобе нашым традыцыям, — гаварыла бабуля Тацяна.

Падвядзенне вынікаў летняга адпачынку зрабіў галоўны яго арганізатар Дарафей Фіёнік, які падзякаваў інструктарам за іх ангажаванасць падчас майстар-класаў, каб навучыць дзетак і моладзь як мага найбольш даўнім традыцыям, народным спевам і танцам. Пасведчанні ўдзелу ў летніку і пахвальныя лісты атрымалі маладыя ўдзельнікі мерапрыемства і іх настаўнікі рукадзелля, танцаў і спеваў. Народным беларускім танцам вучыла кіраўнік калектыву «Хаціслаўяне» з Хаціслава Галіна Хомік, кіраўнік студзіводскай «Жэмэрвы» Анна Фіёнік вучыла аўтэнтычным беларускім песням. Рэзультаты іх працы можна было ўбачыць на прымузейным панадворку, дзе ўдзельнікі летніка запрэзентавалі беларускія танцы і неапрацаваныя фальклорныя песні з Падляшша і Палесся. Сярод спевакоў і танцораў запрэзентаваліся часткa членаў тэатральнага калектыву «Антракт» Бельскага дома культуры, гурта «Жэмэрва» са Студзіводаў і маладзёжнага калектыву «Вясковая табола» з Хаціслава, а на цымбалах зайграла Марыя Гулюта з Кобрына.

— Нам тут на летніку вельмі падабаецца, бо можам займацца рукадзеллем. Падабаюцца нам народныя танцы «Ойра», «Месяц» і «Ночка», з якімі мы выступаем як члены калектыву «Вясковая табола». Завязалі мы сяброўства з моладдзю з Польшчы і прыемна праводзім тут час, — сказала Юля Краўчук з Хаціслава.

— Цікава было выплятаць з саломы, але народныя песні і танцы асабліва нам да спадобы, бо мы ім вучымся ў сябе, — гаварылі Насця Герасімюк і Арцём Кірычук з Хаціслава.



«Лета з традыцыямі» прыцягнула моладзь з Беласточчыны, Варшавы, Кобрына і Хаціслава, што на Палессі (на здымку таксама іх бацькі і некаторыя апекуны і інструктары)

Вучні ахвотна вучыліся саломапляценню, бо бачылі рэзультат сваёй працы, калі атрымліваліся прыгожыя залацістыя прадметы.

— Мы рабілі з саломы капелюшы, кошыкі, званочкі і іншыя дэкаратыўныя прадметы. Складана было вучням зрабіць капялюш, але Максім Фіёнік заўпарціўся і выканаў самастойна вялікі капялюш. Дзеткам цікава было зрабіць прадмет з саломы і паказаць яго бацькам, — сказала інструктар па саломапляценню Ірына Гулюта з Кобрынскага коледжа мастацтваў, якая чарговы год займалася з вучнямі ў Студзіводах.

— Саломапляценне гэта цікавы занятак і таму я рашыўся ім займацца. Паспрабаваў таксама ткаць, вучыўся танцам і фальклорным песням, — заявіў Максім Фіёнік, які закончыў ужо падставовую школу і паступіў у беларускую гімназію. На летніку саломапляценнем займаўся таксама яго брат Ілья, а рукадзеллем цікавілася сястрычка Таіса.

— Цікава было ткаць і гэтая работа вучыла нас цярплівасці, — заявіла Юля Васюк з бельскай «тройкі».

— Я з Варшавы прыехала са сваёй дачкой да сям'і. Яна задаволена ўдзелам у майстар-класах, — сказала Сабіна Себясевіч і паказала прыгожыя вырабы з саломы выкананыя яе дачушкай.

Зоя Майстровіч з Рудутаў вучыла плесці з ракіты кошыкі. Такі занятак таксама спадабаўся вучням

— На летніку займалася каля 30 вучняў. Трэба было апекавацца імі так, каб прыемна ўспаміналі праведзены тут час. Дзеткі ахвотна займаліся рукадзеллем. Калі некаторыя вучні трацілі цярплівасць да складанай ручной работы, трэба было прапанаваць ім гульні. Вучоба народным танцам і фальклорным песням таксама была добрым перапынкам ад рукадзелля, — гаварыла Эмілія Гліва, апякун летніка. — Важная таксама атмасфера падчас сустрэч, бо тут адбываецца вучоба сваёй мове. Калі занятки вялі інструктары з Беларусі, старэйшыя вучні стараліся звяртацца да іх па-беларуску, а і малодшыя вучыліся беларускай мове, слухаючы выказванні інструктараў.

Арганізаваннем майстар-класаў «Лета з традыцыямі» займалася вялікая сям'я Фіёнікаў і Тамаш Суліма. Удзельнікі летніка абедалі ў клуні, дзе харчуюцца таксама ўдзельнікі фальклорных мерапрыемстваў, якія арганізуе Студзіводскі музей. Летнік закончыўся інтэграцыйным пачастункам. Музей малой айчыны ў Студзіводах не толькі выходзіць са сваімі прапановамі да грамадства, але таксама стараецца выхоўваць сваіх будучых супрацоўнікаў, між іншым, падчас майстар-класаў «Лета з традыцыямі». Частку сёлетніх удзельнікаў складалі вучні, якія пабывалі на студзіводскіх летніках у мінулых гадах. Спадабалася ім музейная атмасфера, ангажаванасць народных інструктараў і штогод летам вучыцца традыцыям сваіх продкаў. Удзельнікі майстар-класаў «Лета з традыцыямі» пасля ангажуюцца ў дзейнасць студзіводскага музычнага калектыву або наведваюць фальклорныя мерапрыемствы, якія ладзіць Студзіводскі музей.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

Пяць гадоў працы ў лясной вёсцы

# Ключ да культуры

14 гадоў таму, 2 красавіка 2000 года, улады „ўмярцвілі” пасажырскі цягнік на шляху Беласток — Зубкі, праз Саколе. Ад цягніка засталіся толькі сантымент і добрыя ўспаміны. У жніўні, у спякоту (34 градусы па Цэльсію) дарогу паўз пуцёў з аднаго боку і дужага лесу злева адольваю пешшу 3 кіламетры па ўвязнучым ад гарачыні асфальце. І аж прымройваецца мне, быццам фатамаргана ў летнім мроіве, на пагорку вядомы мне здаўна Людовы дом. Той самы, яшчэ нядаўна зруйнаваны — ды не той — элегантны, сучасны. Пасля „еўрарамонту”. Сёння свята Таварыства сяброў Саколя, якое ўнесла ў яго новы дух. Мноства мерапрыемстваў, яднаючых жыхароў цяперашніх і выхадцаў, шэсць выдадзеных кніг...



Барбара Пахольская

— Заснавалі мы з жыхарамі Тварыства сяброў Саколя, — расказвае Барбара Пахольская, старшыня. — Былы Людовы дом ажыў! Успамінала мая мама: „Падставоўку кончыла я ў Саколю. Змяшчалася ў Людовым доме збудаваным у 1937 годзе. Жыхары збіралі на гэтую мэту грошы, аддалі пад інвестыцыю свае ўчасткі. Мужчыны ставілі сцены, клалі дах. Сакаляне рабілі тут патанцоўкі і вяселлі”. А тата: „Мы таксама хадзілі туды на забавы”. У 1972 г. у ЛД узнік быў клуб „Рух”. Дзейнічаў тут Саюз вясковай моладзі, два тэатры. Усё штосьці адбывалася. Аж да 80-х гадоў, калі ліквідавалі клуб і школу. Ад тае пары будынак стаяў пусты. Толькі ў 2004 г. мастачка Агнешка Тарасюк з Асацыяцыі культурнай адукацыі „ВІДОК” у Беластоку стварыла „Рэгіянальны цэнтр аховы краявіду”. Дзякуючы гэтаму гэтае месца зноў пачало пульсаваць жыццём. Я навучылася маляваць на шкле, рабіць варэнне з чарніц, ажын, суніц, здабыла сертыфікат класіфікатара грыбоў... У 2009 г. Агнешка змяніла працу і перастала дзейнічаць у Саколю, што вельмі занепакоіла жыхароў. Тады мы рашылі заснаваць ТСС. Год раней я пайшла на пенсію. Муж і сын жывуць за мяжой. Мела я шмат часу і вопыту ў падобнай дзейнасці, таму што шмат гадоў працавала ў Ваяводскім доме культуры ў Беластоку. Таму згадзілася стаць старшынёй. Бургамістр Міхалова Марк Назарка абяцаў даць грошы на рамонт ЛД. Глядзелі мы, як агромнаму, віднаму будынку вяртаецца слаўнае мінулае. Ключ быў у солтыскі вёскі, Эвы Купрашэвіч. У ЛД арганізаваны былі хрысціны, дыскатэкі. Зноў пульсаваў жыццём. Я задумалася, што магу запрапанаваць жыхарам. Выдумала м.інш. праект „Спадычна, карысці ці комплексы”. Здабыла нават грошы з Маршалкоўскай управы на яго рэалізацыю. На пачатак запланавала выставу. „Шмат з вас мае па дзядах розную прыгожую драбязу, карціны, статуэткі, — заахвочвала я суседзяў, каб пераглянулі свае падстрэшкі. Людзі з ахвотай выцягвалі старыя прасы, маслабойкі, макаткі, карціны... Адзін з жыхароў, Андрэй Каспяровіч, напісаў і выдаў кніжку **„75 lat Domu Ludowego im. I Marszałka Polski we wsi Sokole 1937-2012”.** Спытаўся ў мяне, ці прамоцыя кнігі можа быць у Людовым доме. Вядома, што так! — згадзілася я, бо ў якім жа іншым месцы? Перад прамоцыяй пазваніла солтыска: „Не маю ключа да ЛД”, — знервавалася. Аказалася, што забраў яго ў яе працаўнік гміны. Пазваніла я бургамістру і расказала пра ўсю справу. „Перад прамоцыяй адзін з чыноўнікаў прывязе ключы,” — абяцаў бургамістр. На шчасце ўсё ўдалося і прамоцыя была праведзена згодна з планам. Ды змянілі замок у дзвярах. Тыдзень пасля мела адбыцца сустрэча жыхароў у рамках праекта „Збліжэнні — лавачкі дыялогу”. У чатырох месцах вёскі паставілі мы лавачкі, каб людзі маглі прысесці, паразмаўляць. Таму я затрымала ключ да ЛД. Тры дні перад імпрэзай прыехалі да мяне намесніца бургамістра і дырэктарка Гміннага асяродка культуры: „Мусіце аддаць ключ, пасля рамонту нельга так сабе ўваходзіць у Людовы дом, мусіць быць адказнасць”, — сказалі. „Мы праз момант будзем мець імпрэзу для жыхароў”, — патлумачыла я і ключа не аддала. 20 красавіка 2013 г., перад сустрэчай з жыхарамі пайшла ў ЛД, ды аказалася, што... зменены замок у дзвярах. Сустрэча адбылася на дварэ, хаця было халаднавата. Мне было сорамна перад сабранымі. „Не будзем мець доступу да Людовага дома?!” — дзівіліся сакаляне. Абяцала я справу высветліць у Гміннай управе. Аказалася, што бургамістр рашыў, што ключ да нашага дома будзе ў дырэктаркі ГАК у Міхалове. А калі хтосьці схоча пакарыстацца ЛД, мусіць падаць прашэнне і патлумачыць, з якой мэтай хоча наняць будынак, а затым падпісаць дамову. 1 чэрвеня мела я запланаванае чарговае спатканне „Рэклама сельскіх гаспадынь даўней і сёння”. Мела адбыцца дыскусія на тэму маркетынгу і рэкламы. Гэта для нас важнае, бо шмат жыхароў прадаюць грыбы, ягады. Напісала я дырэктарцы ГАК прашэнне, каб далі нам ключ. Адказ быў пазітыўны. Аднак, ключ нам далі перад самой імпрэзай. Не было часу на тое, каб падрыхтаваць выставу. Пасля афіцыйнай часткі хацелі мы, як заўсёды, паразмаўляць. „Не плацяць мне за звышурочныя гадзіны. Мушу зачыніць” — сказаў працаўнік ГАК, а мы адчулі сябе страшна: „Людовы дом быў заўсёды наш, будавалі яго нашы бацькі і дзяды. Цяпер моладзь, каб сустрэцца, будзе мусіла ехаць 10 кіламетраў да бургамістра і падпісваць дамовы? Гэта без толку!” — нерваваліся сакаляне. — Але нават і прашэнне тут нічога не дасць. Ужо не будзем тут рабіць свят і забаў?!” Анна Дабравольская-Цыльвік тлумачыць, што працаўнік ГАК адкрывае дзверы ЛД пры ўмове, што дзейнасць будзе сходная са статутам ГАК. Што нельга арганізаваць тут вяселляў, хрысцін, толькі экалагічныя сустрэчы, дні вёскі, салэцкія спатканні. Усе так цешыліся, што ў Саколі зноў будзе дзеяцца! Людовы дом жа ж для жыхароў.

Радная і солтыска Эва Купрашэвіч — яна аддала ключ міхалоўскім уладам:

— Як я стаўлюся да канфлікту з ключом у Людовым доме ў Саколі? Некаторыя людзі не рады таму, што ключ у Гмінным асяродку культуры, а не ў мяне ў хаце. Я тут не бачу ніякага канфлікту. Ад пару гадоў мела я ключы ў вясковую святліцу, адбываліся там сходы, з часам пачалі мы арганізаваць сустрэчы — „сільвестра”, „валянцінкі”, „андрэйкі”. Да часу рамонту будынак не меў вялікай матэрыяльнай каштоўнасці. Адбудаваны ён практычна ад падмуроўкі, на гэта пайшло больш за 200 мільёнаў злотых, 90 мільёнаў еўрасаюзных. Я нейкі час трымала ключы пасля рамонту, ды матэрыяльная адказнасць завялікая. Я рашыла аддаць ключы ўласніку, значыць, Гміннай управе. Я ўсе тыя гады грамадска апекавалася будынкам, а сёння не хачу матэрыяльна адказваць за гэты аб’ект. І цяпер кожны ўваход у будынак мусіць быць дагавораны з міхалоўскай Гміннай управай і Асяродкам культуры, таму што гэта гмінны маёнтак. Гэтая спрэчка датычыць уласніка будынка. Добра ведаем, што закон не прадстаўляе чагосьці такога, як уласнасць жыхароў, а згодна з ім гэта ўласнасць гміны. Хачу тут удакланіць, што гэты будынак не быў адрамантаваны. Ён АДБУДАВАНЫ, у цэласці, што відаць на здымках. Са старога будынка засталіся толькі сцены. Грошы, якія перадала цяперашняя рада і бургамістр, маглі пайсці на рамонт вуліц або дадатковае асвятленне, а пайшлі на Людовы дом у Саколі. І ключы цяпер не ў мяне, а ў ГАК. Як ведаю, яшчэ нікому не адмовілі адкрыць аб’ект. Дарэчы, гэты ЛД не толькі месца дзейнасці „патрыётаў” з Таварыства сяброў Саколя, але і іншых арганізацый і фондаў, з цэлай гміны, — кажа солтыска і радная, якая яшчэ ў 2012 г. бяседавала з ТСС, рэалізавала разам праекты, але перад рамонтам ЛД сказала, што лепш было б яго разабраць.

Эва Купрашэвіч выдала разам са старшынёй ТСС Барбарай Пахольскай дзве кнігі як ТСС: **„Okruchy historii wsi Sokole i okolic” (2010), „Między prawdą i legendą” (2010).** Цяпер яна крыва глядзіць на гэтую актыўную групу жыхароў ад ТСС, а найбольш на Б. Пахольскую і Андрэя Каспяровіча, і маецца ўражанне, што той ключ аддала ў Міхалова дзеля шкоды „на злосць” ім. Старшыня ТСС у маі 2013 г. атрымала ў Варшаве з рук Прэзідэнта РП Кавалерскі крыж Ордэна Адраджэння

працяг ☞10




## Запрашэнне

Вясковая самаўрадавая святліца ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) запрашае ў кожны панядзелак і пятніцу а 17-й гадзіне на заняткі па разьбе ў гліне. Можна тут таксама на ганчарным кругу „круціць” кубкі, збаны або верцехі. Удзел у занятках могуць прыняць усе ахвотныя і не толькі мясцовыя. Гліны ў Ляўкове ўдоваль, хопіць яе для ўсіх.

Ужо шмат гадоў заняткі вядзе Вольга Максімюк — інструктар па скульптуры з суседняга Новага Ляўкова. Мае яна вялікі вопыт у галіне разьбы ў гліне. Пад яе кірункам дзеці і моладзь выконваюць вельмі цікавыя прадметы. Ствараюць-лепяць прыгожыя мініяцюры палацаў, замкаў, цэркваў. Лепяць усялякіх звяркоў. Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы кожны год арганізоўвае ўжо папулярныя тут конкурсы на найлепшыя працы з гліны і абавязкова з узнагародамі. У святліцы ёсць цікавая пастаянная выстаўка керамічных прац удзельнікаў майстар-класаў.

Прыязджаюць у Старое Ляўкова працаваць таксама айчынныя і замежныя артысты-разьбяры. Працуе тут керамічная фабрыка будаўнічых матэрыялаў, у печах якой гліняныя рэзьбы пераўтвараюць у кераміку. На другім паверсе святліцы ёсць гасцінічныя пакоі і можна закватаравацца на даўжэйшую пабыўку.

Зацікаўленыя разьбой асобы могуць патэлефанаваць у справе майстар-класаў на нумары тэлефонаў: 85 685 61 07 або 660 211 171.

Варта дадаць, што спадарыня Вольга — мастачка. Малюе яна прыгожыя адметныя карціны. Яна вельмі любіць чытаць кніжкі (з ляўкоўскай бібліятэкі прачытала ўсе) і вырошчваць кветкі. Кніжкі і кветкі гэта яе найвялікшыя хобі. Каля яе прыгожага дома кветкі цвітуць ад ранняй вясны да позняй восені.

**(яц)**

## Медалі шлюбным парам

У рамках святкаванняў XVIII Дзён Кляшчэляў 25 ліпеня ў Гарадскім цэнтры культуры, спорту і адпачынку „Гладышка” адбылося ўручэнне медалёў шлюбным парам з нагоды 50-годдзя шлюбнага жыцця. Віншавальны ліст прэзідэнта Рэчы Паспалітай зачытала і медалі ўручыла бургамістр Ірэна Негярэвіч. Узнагароджаных было чатырнаццаць пар юбіляраў: Ян і Марыя Алексеюкі, Баляслаў і Юзэфа Жавускія, Леанард і Валянціна Кулікоўскія, Пятро і Анна Канаховічы, Павел і Галена Кулікоўскія, Антон і Раіса Такаюкі, благачынны а. Мікалай і матушка Міраслава Келбашэўскія з Кляшчэляў, Ян і Марыя Зялінка, Васіль і Марыя Негярэвічы з Сухавольцаў, Мікалай і Сафія Пякуціны, Міхал і Анастасія Радчукі з Дашоў, Васіль і Ніна Астапчукі, Аляксандр і Люба Баравікі з Палічнай ды Ян і Антаніна Воўчыкі з Тапаркоў. Былі падарункі і кветкі з найлепшымі пажаданнямі ў далейшым сямейным жыцці, разумеецца з шампанскім ад самаўрада і сямейнікаў ды супольнае застолле з кавай і гарбатай. У мерапрыемстве ўдзельнічаў ксёндз Збігнеў Нямыйскі з Нарвы. Сустрэча праходзіла ў сардэчнай сямейнай атмасферы.

**(ус)**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Як рыба ў вадзе

— Спеў — гэта кавалак майго жыцця, — гаворыць нашаму тыднёвіку дзесяцігадовы Адрыян Данілюк з Міхалова.

Малады музыкант на сцэне адчувае сябе як рыба ў вадзе. Маглі аб гэтым пераканацца, між іншым, госці міхалоўскай „Прымацкай бяседы". Хлопец іграў, спяваў і па-беларуску вітаў бяседнікаў і запрошаных артыстаў.

— *Столькі абавязкаў, спраўляешся выдатна.*

— На „Прымацкай бяседзе" я ўжо чацвёрты раз. Маю вопыт. Я член калектыву „Спявай душа", якім кіруе лідар гурта „Прымакі" Юрка Астапчук. Таму ўдзел у гэтым свяце лічу абавязковым.

— *Чым Ты сёння парадаваў шматлікую публіку?*

— Песняй „Зайграй жа мне дударочку", якую навучыў мяне Лех Мазур.

— *Сам зайграў, сам праспяваў.*

— На малой гітарцы, укулеле, іграю ўжо трэці год. Гэта таксама заслуга майго настаўніка спадара Мазура. З ім засвойваем мы таксама гітару і акардэон.

— *Што Цябе тут цікавіць?*

— Беларуская песня, выдатныя музыканты.

— *Твае любімыя песні...*

— Спяваю ўсё, і не толькі па-беларуску. Я яшчэ член калектыву яўрэйскай музыкі „Маладая фолькавая кроў". Прымаю з задавальненнем усе прапановы сваіх інструктараў па музыцы.

— *Апошнія канцэрты...*

— У Вроцлаве на сапраўдным яўрэйскім шлюбе. Неўзабаве з яўрэйскімі песнямі паедзем на фестываль у Вільню.

— *У музыцы галоўнае...*

— Дорыць шчасце ўсім слухачам незалежна ад узросту.



*Адрыян у час перапынку на „Прымацкай бяседзе"*

— *Калі не спяваеш...*

— Іграю. Нядаўна так іграў, што паясніца ад акардэона адарвалася. Люблю таксама камп'ютарныя гульні. 22 ліпеня, на дзень народзін, я атрымаў МП-3-плэер, які часта слухаю.

— *Любімы музыкант...*

— Аляксандр Рыбак і „Энэй".

— *Мара...*

— Стаць прафесіянальным музыкантам і спець у дуэце з Аляксандрам Рыбаком.

**Іаанна ЧАБАН**

# Сустрачанская хроніка (6)

У суботу завіталі да нас паэты-„белавежцы": Міра Лукша, Віктар Швед і Віктар Стахвюк. Яны вярталіся з Першага беларускага літаратурнага пікніка, які праходзіў у Трасцянцы. Нашы госці хацелі расказаць пра ўсё на свеце: пра сваё дзяцінства, пра падарожжы, пра крыніцы натхнення. Міра Лукша сказала, што таксама на Сустрэчах „Зоркі" ўлавіла натхненне і напісала два добрыя вершы.

Кожны паэт прачытаў з памяці некалькі сваіх вершаў.

Паколькі набліжаўся канец Сустрэч, мы пачалі ўгалас сумаваць. Мы хацелі тут быць і разам праводзіць час. За тыдзень часу нас наведала столькі добрых людзей.

Мы напэўна будзем сустракацца на канікулах. Нашае сяброўства не згасне і не загіне. Прыклад гэтаму — Юліта Грыка, мая найлепшая сяброўка з папярэдніх Сустрэч „Зоркі". Цягам мінулага года мы ліставаліся і сустракаліся. Я нават напісала верш Юліце.

Я магу на цябе лічыць  
У кожную пару дня і ночы.  
Ты са мной будзь,  
Я не адмоўлю дапамогі.  
Столькі мы разам пражылі,  
Столькі сур'ёзных размоў правялі.  
Ты была для мяне крыніцай бадзёрасці.  
Разам лягчэй нам было вырашаць праблемы,  
Што ўвесь час раслі ў нашых галовах...  
Ты ніколі мяне не пакінула.  
Ты заўсёды пры мне стаяла,  
А я ў кожнай хвіліне Табе давярала.  
Гэта наш свет, наша сіла,  
Сяброўства, якое ніколі не распадзецца.  
Яно назаўсёды, на вечнасць.  
Яго ніхто не разбурыць, не знішчыць.  
Будзьма аптымістамі,  
Тады лягчэй і працей ісці з паднятай галавой  
У нашым нялёгкім маладым жыцці.  
А яшчэ скажу на канец Табе:  
Юліта, я проста, дзякую!!!

**Наталля Васько**

Ад рэакцыі: „Сустрачанская хроніка" ўзнікла ў большасці на аснове запісак **Наталлі Васько, *галоўнай рэдактар „Сустрачанскай скрыні"***.



# Вершы Віктара Шведа

## Бабулін музей

Янка бачыць, што бабуля,  
Шустрая, як штодзень.  
Запытаў сваю матулю:  
Куды яна выходзіць?

— У музей ідзе нябога,  
Там нейкая нагода.  
Адазваўся Ясь з трывогай  
— А ці не назаўсёды?

## Мозг і розум

Бацька па працы ў бар схадзіў,  
Вярнуўся нецвярозы.  
Сыночак просіць: — Раскажы  
Ты мне пра мозг і розум.

— І да чаго ж цяпер заве  
Школа, што ведаць хоча?  
Што іншае ў галаве  
Маёй цяпер, сыночак.

## Падазроныя грыбы

— Збіраеце вы грыбы  
Як добрыя быццам.  
Можа быць вынік слабы,  
Можна імі атруціцца.

— Не будзьце ў журбе, —  
Адказала жанчына. —  
Гэта ж не для сябе,  
А толькі на рынак.

## Сакрэт

— Хутка нас будзе трое, —  
Матуля кажа татку.  
— Цешыць мяне такое,  
Адкуль аб гэтым згадка?

— Званіла мая маці  
І з радасцю сказала,  
Што жыць у нашай хаце  
Ёй будзе дасканала.

## Лета

**Лета гэта добрая справа,  
Ёсць сонца і забава!  
Ямо марожанае,  
Добра гуляем,  
Аб школе не ўспамінаем.**

Эмілія КАЗЛОЎСКАЯ, Геранімова, ПШ у Міхалове

№ 33 [17-08-2014]

# Таямнічая царква

У наваколлі Нараўкі жыве памяць пра царкву, якая правалілася пад зямлю. Яна знаходзіцца каля Масева, у дзікіх нетрах Белавежскай пушчы.

Пра гэта існуюць дзве легенды. На Сустрэчах „Зоркі" мы рашылі адшукаць гэтае месца.

Першая легенда гаворыць, што царква правалілася пад зямлю разам з народам з-за грахоў людзей, якія безупынна сварыліся і дакучалі сабе.

Другая легенда падалася дзіўнай, хоць крыху знаёмай.

Даўно-даўно ў пушчы жылі розны групы людзей: туземцы і новыя пасяленцы. Прыезджыя часта нападалі на мясцовых. Яны хацелі забраць ім зямлю і маёмасць. Туземцы былі лясныя людзі, мелі сваю царкву. Быў такі час, калі ім не было куды хавацца ад ворага. Тады яны хаваліся ў царкву і маліліся. Бог выслухаў іх малітвы, збавіў і забраў царкву разам з людзьмі пад зямлю. Людзі ўбачылі там другое неба, другую зямлю, зоркі на небе.

У наваколлі Нараўкі па сённяшні дзень вераць, што калі прыкласці ў гэтым месцы да зямлі вуха, можна пачуць званы і царкоўнае набажэнства. Некаторыя кажуць, што тут „трэцім вокам" можна ўбачыць як лясныя людзі ходзяць з хрэсным ходам.

Калі мы ішлі да таямнічай царквы Варанаборскай дарогай, месца спачатку „схавалася". Яма здалася маленькай і не вартай увагі. У рэшце рэшт, пасля гадзіны бадзяння па пушчы, мы зноў вярнуліся ў гэтае месца. Калі апынуліся ў сярэдзіне ямы, яна неверагодна „пашырылася". Пасярэдзіне мы пабачылі знічкі. Месца выпраменьвала моцную энергію, некаторыя з нас адчулі дрыжыкі на целе, іншых пакінула стомленасць.

Усё гэта здавалася казачным і дзіўным. Масеўская легенда жыва напамінала фільм „Свіцязь", які ўзнік на аснове аднайменнага твора Адама Міцкевіча.

**Уля Марчук
і Оля Зінкевіч**
— *„Пушчанскі голас"*

# У грыбную пару

Алесь устае рана, як толькі ноч пабялее на ўсходзе. Хуценька збіраецца ў лес па грыбы. Бярэ ў кішэнь акраец хлеба, у кош кладзе нож. Яшчэ цемнавата. Усюды плыве нізкі, мутны туман. Праз яго не відаць ні кустоў, ні дарогі. Птушкі прачнуліся ўжо.

У лесе змрочна і сыра. Ад прахалоды хлопец ажно ўздрыгвае і спяшаецца. Неўзабаве зварочвае з асфальту і ступае па лісці, ігліцы. Пад нагамі прыемна-падатліва спружыніць мох.

У лесе ўперамешку кашлатыя елкі ды імшыстыя сосны, бярэзнік, а яшчэ стаўбуны ядлоўцу. Ураз Алесь чуе недзе збоку доўгае і гучнае: „Ау-у-у!". Ён нырае ў непралазны гусцеж — спрэс адны елкі. Дзяцел сядзіць на самай макавушцы, высока, дзяўбе ў кузні хваёвую шышку, ласуецца семкамі.

А галасоў усё больш і больш. Ад іх аж галосіць лес.

— Ауу!

— Уаа!

Алесь пільней глядзіць сабе пад ногі. Ля кожнага натапыранага ліста, ля кожнага кусціка і купінкі. Нечакана як не спатыкнецца аб грыб. Ён выбіўся з зямлі і яшчэ мокранькі ад натугі. Ладны ядраны трафей. Чым далей у лес, тым больш грыбоў: белых, паджарых з чорнымі тоўстымі шапкамі ды зусім малюсенькімі карпунцамі.

Сонца паднялося высока. Хлопец азіраецца і паварочвае назад дадому. Топча верас, ягаднік. У лесе пахне лісцем, грыбамі, зямлёю. Вось на самы ніжні сук спусцілася цікаўная вавёрка. Яна грыбнікоў не баіцца. Падзівіцца вокамшрацінкай і шугане рыжай маланкай між зялёнай навісі.

Алесь выходзіць з лесу радасны, з поўным кошыкам. Спяваюць, заліваюцца ўсюды птушкі — у іх свая радасць і надзея.

З-за пагорка вынырае вёска. Вось і дом. Маці збіраецца саджаць у печ грыбы. Печ смачна пахне пшанічнымі аладкамі і свежай падпражанай саломаю.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Расліны ў будаўніцтве

Дыяна Нахіла, рэдактар агульнапольскай газеты „Meble.biznes", чарговы раз прыехала на Сустрэчы „Зоркі". У час сустрэчы кожны з нас мог пахваліцца сваімі ведамі. Спадарыня Дыяна ўмее перадаваць інфармацыі ў такі спосаб, каб кожны мог пагуляць і чамусьці навучыцца. Наша лекцыя тычылася свету раслін у сучасным будаўніцтве. Хоць рэдка пра тое думаем, кожны з нас хоча жыць у атачэнні раслін. Цяжка ўявіць сабе хату без драўляных сценак, мэблі, падлогі ці ложка. Чалавек ад заўсёды стараўся, каб яго дом быў бяспечны, цёплы, сухі і каб у ім было многа раслін і кветак. Калі нехта не любіць жывых раслін, часта свой дом аздабляе карцінамі з выявамі кветак або вешае заслонкі і фіранкі з матывамі папараці або ружаў.

Тады прыгажэй, лягчэй і больш утульна.

**Наталля ВАСЬКО**
— *„Сустрачанская скрыня"*

## Украінская думка

*Сядзіць самотна над сажалкай,
Рукой выцірае слёзы.
Яна не ўбачыць яго ўжо,
Не ўбачыць...
Хлопец на вайну пайшоў
Вораг падстрэліў яго ў сэрца.
Белая кашуля колер змяніла,
Кроў наверх прасачылася.
Вярніся, вярніся, не пакідай яе
Не пакідай,
Не пакідай яе адной у слязах,
Не пакідай адной, над сажалкай.*

**Юстына Марчук**
– *„Сустрачанская скрыня"*

# Польска-беларуская крыжаванка № 33

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 29**: Ян, код, адрас, ар, во, званочак, вецер, зоры, крот. Звон, давер, рацыя, на, не, дворык, сага, сакрэт.

Łapka
Słówka
Tchórzek
Jad
Chrzan
Wokal
Talia
Janek
Lala
Jar
Kahał
Rząd
Osoba
Krówka
Makówka
As
Pi
Zagadka
Punkt
Oczep
Chyba

# Дзякуючы беларускай мове

## З аднакласніцай Раісай САМОЦІК-САНГАР размаўляе Аляксандр Вярбіцкі.

**— Пачну з асабістага ўспаміну. Калі мне было пяць ці шэсць гадоў, мае бацькі выслалі мяне адвячоркам да сваякоў у Лешукі з нейкім даручэннем. Заглянуў я на ляшуцкую вуліцу, а там поўна коней, кароў, авечак, гусей, курэй, людзей. Такога мноства я яшчэ да таго часу не бачыў, завярнуўся і даў драла на свой спакойны ляўкоўскі хутар. А як Ты ўспамінаеш свае Лешукі таго часу?**

— Гэта была вельмі дынамічная вёска. Было многа старэйшых людзей, якія сядзелі на лаўках з унучкамі; цяпер старых людзей не відаць, неяк пуста зрабілася. І было тады многа моладзі, якая ўсюды вучылася. Амаль у кожную суботу ладзілі патанцоўкі — у вёсцы былі тры танцавальныя пляцоўкі. Прыязджала наша моладзь з Гайнаўкі і Беластока, было весела. Мае дваюрадныя сёстры прыязджалі да нас з Беластока і для іх дзяцінства асацыюецца менавіта з Лешукамі, што ў Лешуках было найпрыгажэй.



Фота Аляксандра Вярбіцкага



Прывітанне на аэрадроме (фота з сямейнага архіва Раісы Сангар)

**— У маёй хаце з вялікай павагай гаварылася пра лешуцкіх настаўнікаў — Шуру і Алёшу. Як Ты іх успамінаеш, бо ж Ты ў іх вучылася...**

— Аляксандр Харкевіч, дырэктар школы, быў маім хросным бацькам, а Аляксей Харкевіч — гэта мой дзядзька...

**— Калі я канчаў пачатковую школу, то ў Лешуках былі наладзілі вучнёўскую сустрэчу школьнікаў, на якой прысутнічалі таксама вучні з Лукі і Ляўкова. І там нам прэзентавалі нешта накшталт легенды, што Лешукі заснаваў нейкі Ільля — Eliasz. Дарэчы, афіцыйна вёска называецца Eliaszuki, у 1950-х гадах у „Ніве" таксама былі Ільяшукі. Да таго ж Слоўнік Каралеўства Польскага недзе з 1890-х гадоў называў вёску Iljaszuki. І ў мяне складваецца ўражанне, што ляшуцкія настаўнікі ўжо тады ўводзілі вучняў у азнаямленне з мясцовымі традыцыямі, легендамі. Цяпер азнаямленне з элементамі мясцовай культуры ўводзіцца ў працэс навучання, а тады была гэта навізна. Мо было такое на ўроках у Тваёй школе, можа ляшуцкія настаўнікі хацелі падказаць і пра сваю культурную вартасць?**

— Магчыма, што гэта было пазней, бо калі я вучылася, то гэтага не было. Быццам хтось гаварыў, што ішоў цераз Лешукі нейкі Ілья, але дакладнага сюжэту не помню.

**— Усё ж такі легенда пра заснаванне Лешукоў Ільём ставіць Лешукі ў адзін рад са славутымі мясцовасцямі, якія мелі легендарных заснавальнікаў, напрыклад Кракаў Крака, а Варшава Варса. І я, прыгадваючы тых людзей, якія выраслі з Лешукоў, асмелюся меркаваць, што Лешукі маюць нешта з велічы Кракава ці Варшавы, што яны з'яўляюцца найбольш беларускай мясцовасцю ў цэлым свеце. Бо ж згаданыя настаўнікі былі шчырымі заўзятарамі беларускай справы, а Аляксей Харкевіч яшчэ і сёння ў ліку лідараў беларускага актыву ў Гайнаўцы. І ў Лешуках вырас Твой тата, Мікалай Самоцік, які ж шмат гадоў старшыняваў Галоўнаму праўленню Беларускага грамадска-культурнага таварыства...**

— Ён увесь час жыў справамі Таварыства.

**— А вось Ты, канчаеш ляшуцкую школу і ідзеш следам свайго тата, кіруешся ў бельскі педліцэй...**

— Не была я там доўга, там былі нядобрыя ўзаемаадносіны і я перайшла ў гайнаўскі белліцэй.

**— Пасля ліцэя Ты ўсё ж такі стала настаўнічаць, у Арэшкаве.**

— Пасля ліцэя, да Арэшкава, была Настаўніцкая студыя ў Элку, аддзяленне тэхнікі і мастацтва.

**— А як успамінаеш працу ў Арэшкаве?**

— Цяжка было. Усклалі на мяне многа абавязкаў. Калі б толькі па сваёй спецыяльнасці, то там было б вельмі добра. Бо і майстэрня была добра абсталяваная, і кіраўніцтва школы было кампетэнтнае. Прыйшлося, аднак, навучаць такія прадметы, да якіх не было ў мяне падрыхтоўкі, напрыклад хімію ці беларускую мову. І трэба было зубрыць гэтыя прадметы; мае бацькі жартавалі, што я столькі ў школе не вучылася, колькі мне трэба было навучаць. А з вывучанымі прадметамі не было ў мяне ніякіх турбот; і на ўсе ўрачыстасці школа была адпаведна аздоблена. І музыкі трэба было навучаць малых дзяцей; але з гэтым лёгка было, бо я брала радыё, пускала перадачу і так неяк атрымлівалася, што нават візітацыя пацікавілася, хто навучае музыцы ў другім класе, так прыгожа спявалі.

**— У Арэшкаве дзеці родзяцца спяваючы...**

— Але над хіміяй і беларускай мовай трэба было напрацавацца.

**— А цяпер пяройдзем далей. Як гэта сталася, што Ты выйшла насупраць свайму лёсу. Можа марыла калісь, што суджаны Твой будзе недзе з суседніх Сушчы, Лукі ці Міхнаўкі, можа дзе з Польшчы. У фальклоры папулярны сюжэт, дзе дзяўчына чакае казака ад Дунаю. Твой суджаны з'явіўся з недасяжнай нашаму фальклору індыйскай далечыні, а Ты выехала яму насустрач...**

— Гэта дзякуючы беларускай мове. Я добра жыла з Віктарам Бурам, які працаваў у Гайнаўскім аддзеле БГКТ. І ён запрапанаваў мне выезд у Мінск на летнія курсы беларускай мовы. І я туды паехала; дарэчы, шмат хто адсюль паехаў туды, м.інш. Сцяпан Копа. Пасялілі нас у гасцініцы „Мінск", там мы сталаваліся. У той час у Мінск прыехала экскурсія з Універсітэта імя Патрыса Лумумбы з Масквы; іх таксама закватаравалі ў „Мінску". І так спаткаліся мы ў сталовай, пазнаёміліся на танцах, абмяняліся адрасамі...

**— Часта знаёмства пачынаецца з нейкай турботы адной асобы, якой нехта іншы нясе дапамогу, загараецца між імі агеньчык сімпатыі, які з часам успыхвае ў буйное полымя...**

— У нас справы пайшлі памяркоўна. Мы, пасля бадай тыдня, раз'ехаліся, ён прысылаў мне розныя карткі, а пасля неспадзявана прыехаў у Гайнаўку. І так стаў прыязджаць-наязджаць; маме спачатку гэта не падабалася. Пасля паўтара года ён зрабіў мне прапанову.

**— І трэба было выбраць: туды ці сюды, у Польшчу ці ў Індыю...**

— Гэта яшчэ далёка не ўсё. Паўтара года доўжылася афармленне дакументаў. Стваралiся ў той час розныя бюракратычныя перашкоды: чапляліся, што дакумент не такі, або нешта ў ім не так як трэба запісана. І так тыя дакументы курсіравалі на лініі Польшча — Масква — Індыя. Патрэбная была пацверджаная натарыяльна згода бацькоў — яго і маіх. Сатындар закончыў універсітэт, прыехаў у Гайнаўку, і кіраўнік загса ў Гайнаўцы пазваніў мне і паведаміў, што ўжо ўсё аформлена, а каб хутчэй было, трэба паехаць у Беласток і дакументы прывезці. І праз тыдзень мы запісаліся ў Гайнаўцы.

**— Якое імя ў Твайго мужа?**

— Сатындар, а другое — Кумар, прозвішча — Сангар.

**— А цяпер пытанне — дзе разам жыць...**

— Ён мусіў ехаць у Індыю і там стаць на работу. Там шукаў такую працу, за якую можна было жыць. Паехаў у Бокара, на поўдні, але там былі цяжкія кліматычныя ўмовы і ён адмовіўся. За Хардварам, у Ранiпуры, на подступах да Гімалаяў, быў вялікі энергетычны комплекс, пабудаваны савецкімі спецыялістамі; гэта супадала са спецыяльнасцю майго мужа, які вывучаў у Маскве турбінабудаўніцтва. Савецкія будаўнікі ўжо выехалі, асталіся адно кансультанты, якія жылі ў асобным квартале, і дзякуючы ім атрымаў ён там працу. У Індыі нялёгка стаць на працу — там паўсюдная карупцыя. Майго мужа прынялі на стажыроўку, а пасля менавіта савецкія кансультанты настаялі на яго працаўладкаванне. Пасля двух гадоў я паехала да яго.

**— Далёка гэта было ад ягоных родных мясцін?**

— Не. Ён паходзіць з памежнага з Пакістанам штата Пенджаб, а Хардвар у штаце Утаракан, што займае паўднёвыя схілы Гімалаяў.

**— Ты паехала да яго... А як выглядала тое Тваё першае падарожжа ў Індыю? Ты паляцела сама ў Мамбей, Дэлі, Калькуту?**

— Заляцела ў Дэлі, а там ужо чакалі мяне. Толькі я выйшла з самалёта не на той, што трэба, бок. І так стаяла са сваім багажом і чакала — і нікога. А яны таксама чакалі, шукалі і нерваваліся. Цяпер ёсць мабільнікі, лёгка згаварыцца, а калісь жа гэтага не было. На канец мужаў брат заўважыў, што стаіць чужаземка з багажом...

Прыехала шмат сямейнікаў, прывіталі мяне вянкамі. А пасля падаліся ў рэстаран нешта з'есці. Спыніліся мы ў Дэлі некалькі дзён, бо там жылі мужавы сястра і брат.

**— На аэрадроме спатыкалі Цябе мужавы браты і сёстры. А бацькі?**

— Мужаў бацька ўжо не жыў, і маці была стараватая і нячаста ездзіла. Мы адразу не ў Хардвар паехалі, а ў Чандыгар, новы горад, дзе жылі два мужавы браты. Туды прыехала таксама цешча і мы там хіба былі з тыдзень. І адтуль паехалі ў Хардвар, пяць гадзін язды з Дэлі на поўнач.

**— Як Цябе ўспрыняла мужава сям'я? Удалося падмецiць іх настрой?**

— Да гэтага са мной перапісваліся мужавы пляменнікі, дзеці — прысылалі свае малюнкі. Мужава сям'я адукаваная, усе — браты і сёстры. Усе займалі някепскія пасады — адзін брат быў дырэктарам банка, іншы дырэктарам школы. Прадстаўлялі яны сярэдні грамадскі слой, працавалі ў дзяржаўных установах.

**— Ты з прыездам у Індыю наведвала сямейнікаў мужа. А ці была такая агульная ўрачыстасць, якую ў нас называюць вяселлем?**

— Была рэлігійная цырымонія — хаван, якую ладзяць з нагоды важных сямейных урачыстасцей. Запрашаюць на яе пандыта, вучонага тэолага, распальваюць ахвярны агонь, моляцца, частуюцца.

**— І вы сталі жыць у Ранiпуры, у квартале савецкіх кансультантаў?**

— Не, мы спачатку наймалі кватэру ў Хардвары, у святым горадзе індусаў, мо з паўтара года, а пасля прызначылі нам службовую кватэру. Прыязджала да нас цешча. І як я прыехала, то затрымлівалася на паўгода — ёй смакавала гатаваная мною ежа.

**— Значыць — любіла Цябе... Там трэба было вывучыць мову: як Табе гэта давалася?**

— У тым нашым квартале многія ведалі рускую мову, у тым ліку і прадаўцы. На базары ў Хардвары прадавец усё падлічыць і скажа па-руску, ведалі яны рускія назвы сваіх тавараў.

**— Твой муж працаваў, а ці Ты можа таксама была ўладкавалася на нейкую працу?**

— Не.

(працяг будзе)

**Гутарыў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# ВАЙНА І ЧЫГУНКА (ч. III)

Успаміны Уладзіміра КЛІМЮКА, народжанага 18 лістапада 1923 года ў Цісоўцы, сына Іосіфа і Анастасіі.

На канец амаль не развітаўся я з жыццём. Была нядзельная раніца і нешта мяне спакусіла пайсці да нейкага гаспадара і купіць некалькі кілаграмаў бульбы; некаторыя давалі дарма. Зайшоў я да сціплага доміка, пастукаў у дзверы, увайшоў. У кухні гаспадар сярэдняга ўзросту снедаў, і я яму сказаў, што хачу купіць некалькі кілаграмаў бульбы. У той час глянуў я на сцяну, а там вісіць карычневы мундзір і шапка з трупным чэрапам. Я пабляднеў, затрэсліся ногі; ён глянуў на мяне і загадаў ісці прэч. Я пакланіўся і развітаўся. Ён ведаў, што такія як я жывуць у бараках. Ягоная эсэсаўская фармацыя Totenkopf была важнейшай за жандармерыю і калі б ён паведаміў адпаведныя органы, было б са мною туга. Аднак, відаць, не хацеў ён псаваць сабе і сям'і добрага настрою. Гэта быў мой апошні выхад да гаспадароў.

Мне запамяталіся даязныя дарогі да гаспадарскіх сяліб. Яны былі вузкія, і гмінныя дарогі таксама былі вузкія. Пры дарогах, нават у лесе, стаялі лавачкі, а на іх дзесяці- і дваццацілітровыя бітоны з малаком. Вазак, едучы раніцай на фурманцы, проста з воза забіраў тыя бітоны ў малачарню, а апоўдні ехаў назад і пустыя ўжо, напэўна падпісаныя, бітоны стаўляў на тыя ж лаўкі на абочыне дарогі, а вечарам гаспадар забіраў іх дахаты. У нас у той час такое было б немагчымае.

У Тыльзіце здарылася мне іншая небяспечная прыгода. У адну суботу не памыў я падлогі ў сваёй зале, а была тады мая чарга. Перад вячэрай хадзіў па зале лагерфюрэр ды правяраў парадак і чыстату. Спытаў, хто меў мыць падлогу і чаму яна не памытая. Было яму каля трыццаці гадоў, быў ён натрэніраваны, але ад локця не меў ён левай рукі. Паклікаў ён мяне да сябе, а я ведаў, што ў яго быў моцны ўдар правай рукою. Стаў ён у дзвярах і хацеў мяне ўдарыць, але я вырваўся і давай уцякаць з барака на пляц. Ён крыкнуў, што будзе страляць і я затрымаўся. Падышоў ён да мяне, ухапіў за каўнер, завёў на кухню і загадаў кухару, каб не даваў мне вячэры, а мне загадаў неадкладна памыць падлогу. Прынёс я некалькі вёдраў вады з крана на панадворку, паліў тою вадою падлогу і давай шараваць тую падлогу бярозавай мятлой. Анучы для выцірання падлогі насуха не былі патрэбныя, бо вада сама сцякала ў шчыліны тае падлогі. Вечарам наведаўся той сам лагерфюрэр, быў ён у вясёлым настроі — пахваліў маю работу і сказаў, што ўвесь той закалот не быў патрэбны. Ён хутка ездзіў на роварах, трымаючы яго аднюю рукой.

У Тыльзіце атрымаў я талон на куплю святочнай вопраткі і чаравікаў. Касцюм быў пашыты з матэрыялу пасрэднай якасці, чаравікі былі са шкуры.

Нашы людзі часта рабілі жартыназлосць майстрам. Для прыкладу: капалі мы катлаван пад паваротны круг для лакаматываў і зямлю трэба было некалькі разоў перакідаць рыдлёўкамі, каб закінуць на прывадны пас, які падаваў тую зямлю ў вагоны. Недалёка будовы была часовая прыбіральня — гэта быў роў паўтараметровай глыбіні і метровай шырыні, даўжынёй каля дзесяці метраў. Роў быў з сярэдзіны абабіты дошкамі каб не абсыпалася зямля. Над ровам былі замацаваныя дзве жэрдкі: адна, каб на ёй прысесці, а другая, за плячыма, каб не паваліцца ў той роў. Тая прыбіральня была звонку абабіта дошкамі ад ветру і невядома было, хто ў ёй знаходзіўся. Нашы майстры былі пажылога ўзросту, адзін з іх курыў люльку, а другі нюхаў табаку. Адзін з іх быў на рускім фронце ў 1914 годзе і прасіў нас, каб мы заспявалі песню „Волга, Волга, мать родная". Мы тае песні не ўмелі і так абышлося. Нашы хлопцы, каб не намучыцца, убівалі рыдлёўкі ў зямлю ды ішлі ў прыбіральню пасядзець. Майстар дзівіўся, што атрымліваючы так мала ежы мы так часта ходзім у прыбіральню. Прасіў, каб не рабіць яму прыкрасці — ніхто ж не змушае рабочых да вялікага высілку — і памяркоўна выконваць работу, бо калі прыедзе начальнік і пабачыць тырчачыя рыдлёўкі, тады ён дастане нагоняй, а і рабочым не будзе весела. І аднойчы прыехаў галоўны начальнік, машыну пакінуў у незаўважным месцы, а сам стаў на беразе катлавана і назіраў, як некалькі чалавек, у іх ліку быў і я, перакідае капаную зямлю, а шмат лапат стаіць убітых у грунт. Зараз паклікаў да сябе майстроў, аднаму загадаў не прыходзіць больш на працу, а на яго месца прыслаў іншага, самадура. Шэф фірмы загадаў майстрам падаць прозвішчы тых рабочых, што ўхіляліся ад працы, а ён так зробіць, што яны дзясятаму закажуць, як ухіляцца ад работы.



Уладзімір Клімюк у 1943 годзе



Вадакачка ў Тыльзіце

Пасля паражэння немцаў пад Сталінградам іх твары пасмутнелі, паслабла іхняя энергічнасць, размаўляць з сабою сталі прыцішана. Пачаліся начныя налёты, пераважна ноччу, вылі сірэны, гасілі святло, горад акунаўся ў цемру, чуць было гул самалётаў, а пасля сірэны апавяшчалі, што небяспека мінула. Налёты радавалі нас, бо давалі надзею на вяртанне да родных. У маёй зале жылі Ян Казёл з Плянты, Міхал Мацкевіч з Янова — брат загадчыцы ГСу ў Нараўцы Валянціны Панфілюк, Рыгор Нічыпарук і Самасевіч са Скупава, Станіслаў Мацкевіч з Масева, Аляксандр Ціванюк, Пётр Крэйза, Міхал Бура і Грэсь з Гарадка, Ян Бяляўскі і Несцярук з Мора. Два браты літоўцы гаварылі з сабою па-літоўску; адзін з іх, Койра, гаварыў ноччу праз сон. Апошніх жыхароў барака сёння ўжо не помню. У Тыльзіце былі яшчэ Міхал Анішчук, Аляксандр Федарук і Пётр Конік з Плянты, жылі яны ў іншых залах і са мною не працавалі.

Яшчэ слоў пару пра рух цягнікоў. У транспартах былі пасажырскія вагоны з ложкамі, а на баках і даху вагонаў былі алейнай фарбай намаляваны чырвоныя крыжы. На ўсходні фронт ехалі яны пустыя, а пасля некалькіх дзён вярталіся з ранеными жаўнерамі. Калі такі эшалон спыняўся на станцыі, цераз вокны было відаць ляжачых на ложках жаўнераў, у некаторых купэ вокны былі адкрытыя — відаць раненым было душна. А колькі такіх цягнікоў пракацілася ноччу — гэтага мы не бачылі. І спачуваў я тым салдатам, што асталіся інвалідамі на многія гады. Яны лічыліся нашымі ворагамі, але ў чым жа яны былі вінаўныя? Яны, маладыя хлопцы, ішлі ў армію не па ўласнай волі, гэтак жа як і мы не па ўласнай волі трапілі на прымусовыя работы ў Тыльзіт. Мы чакалі канца вайны і вяртання да сямейнікаў, а іх сотні тысяч асталіся на чужой зямлі, пахаваных часта безыменна і сем'і не ведалі, дзе іхнія магілы. Ехалі транспарты і на фронт, загружаныя войскам, танкамі, самаходамі, гарматамі. Тымі самымі цягнікамі вярталася пашкоджаная баявая тэхніка: танкі, самаходы ды карпусы, крылы і прапелеры самалётаў, а гэта паказвала, што рускія таксама маюць сучасную баявую тэхніку, а іх геройства бярэ верх над немцамі, якія сталі ўсведамляць, што іхняя армія не можа адолець праціўніка і памалу адступае з заваяваных зямель.

У пачатку верасня 1943 года адабралі нас, дзесяцярых рабочых; не ведаю, чаму так сталася, здаецца, не быў я найгоршым, але мой лёс пакіраваў мною інакш. Завезлі нас на працу ў ольштынскім паравозным дэпо. Закватаравалі нас у бараку за калючым дротам, у браме была вартаўнічая будка, у якой стаяў узброены вартаўнік. У бараку побач нашага жылі французскія ваеннапалонныя. Не ведаю, калі іх там закватаравалі, але неўзабаве пасля нашага прыезду іх некуды адтуль адаслалі.

Тут быў іншы парадак і дысцыпліна, лагерфюрэр быў вайскоўцам. У ранейшых месцах працы перакладчыкам быў рабочы Болек Залеўскі з Зэльвы. Нямецкую мову вывучыў ён у сярэдняй школе; бараніў ён рабочых, калі нехта з іх лёгка правініўся. У Тыльзіце з намі працавалі два рабочыя: адзін меў румынскае грамадзянства, а другі, па прозвішчы Тросынбер, быў сынам немца і полькі, меў польскае грамадзянства і выводзіўся з Ваўкавыска. Немцы прапанавалі ім лягчэйшую працу ўзамен за прыняццё нямецкага грамадзянства, але яны адмовіліся.

У Ольштыне дзяліў я двухпавярховы ложак з Янам Цыванюком з Гарадка, а пасуседску спалі бацька з сынам Харманскія, якія былі бадай ад Астралэнкі. Бацька быў машыністам, ездзіў на лакаматывах таварных паяздоў, а сын быў яго памочнікам. Парадачныя былі гэта людзі; часта яны нешта між сабою абмяркоўвалі — спакойна і сэнсоўна. Са мной з Тыльзіта ў Ольштын прыехаў Лоскат Васіль з Залешан, што каля Ялоўкі; мы працавалі разам, але жылі ў розных залах.

У Ольштыне двух давераных немцам рабочых штодзённа ездзілі вазком з матацыклавымі коламі на чыгуначную станцыю і забіралі адтуль пакеты, адрасаваныя рабочым. Прывозілі іх на вартоўню, а там кожны пакет адкрывалі і правяралі, пасля паведамлялі адрасата, які прыходзіў і забіраў сваю пасылку. Некаторыя — але не ўсе — лісты адкрывалі і чыталі. Пакет для высылкі навонкі рабочы заносіў на вартоўню, там салдат правяраў пасылку і дазваляў занесці яе на пошту або на чыгуначную станцыю для высылкі цягніком. Лісты пасылалі без кантролю, адпраўнік сам заносіў свой ліст на пошту.

Лагерфюрэр сам асабіста правяраў чысціню. Бывала, урываўся ў залу, са спячага рабочага здзіраў плед і глядзеў, ці чыстыя ў таго ногі. Калі былі брудныя, неахайнік даставаў скуранай нагайкай па плечах або ніжэй і мусіў бегчы прыстойна памыцца.

Жыллёвыя ўмовы і харчаванне былі ўсюды амаль аднолькавыя. У ежы было замнога калорый для памірання, але замала для суняцця голаду; чалавек увесь час быў схуднелы. Калі атрымаў пасылку, трэба было абыходзіцца з ёю памяркоўна, бо абжорства было для арганізма большай небяспекай чым недаяданне. Самому трэба было рацыянаваць ежу, бо невядома было, калі надыдзе чарговая харчовая пасылка; лепш, калі хлебны сухар захаваецца да атрымання чарговага падсілкавання.

(працяг будзе)

Спісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# У Баброўцы свята

**Баброўка** — невялічкая вёска ў Чаромхаўскай гміне, якая знаходзіцца пры дзяржаўнай мяжы з Беларуссю. Гаспадаром сяла — солтысам і заадно радным з'яўляецца Мікалай Легеза. Як сказаў ён мне ў час размовы, салэцтва налічвае пяцьдзясят восем сядзіб, у тым ліку дваццаць сем заселеных дамоў, у якіх пражывае сорак сем жыхароў (прапісаных у вёсцы каля шасцідзесяці чалавек). У асноўным жывуць тут пенсіянеры. Вёска задбаная і дружная. Доказ гэтаму — апошняе мерапрыемства...

Субота, 26 ліпеня. Надвор'е не паскупілася на цеплыню і сонечныя прамяні. І хоць у вёсцы пачалося жніва, жыхары святкуюць. А была дзеля таму нагода — асвячэнне і здача ў карыстанне адрамантаванай святліцы. Імпрэза пачалася ў 15 гадзін. У мерапрыемстве ўдзельнічалі старшыня Рады павета Мікалай Міхалюк і старшыня Рады гміны Надзея Суліма, гмінныя радныя, благачынны з Кляшчэляў а.Мікалай Келбашэўскі і дыякан Лукаш Барташук, настаяцель Заблудаўскага прыхода а. Яраслаў Пагур (ураджэнец Баброўкі), дыякан Зубачоўскага прыхода Ігар Астапковіч, прадстаўнік фірмы-выканаўцы Тацяна Базыляк, кіраўнікі гмінных службовых адзінак, солтысы і шматлікая публіка.

Гасцей прывітаў войт Чаромхаўскай гміны Юры Шыкула, які сказаў:

— Кошт рамонту і абсталявання вясковай святліцы ў Баброўцы склаў 142 991,82 зл., у тым ліку 50% кваліфікаваных коштаў было прафінансаванае еўрасаюзнымі сродкамі. Выканаўцам рамонту была фірма Тацяны Базыляк з Люботыня-Старога. Цешымся, што еўрасаюзныя праграмы даступныя для вясковых абшараў. Без здабытых сродкаў самаўраду не пад сілу было б праводзіць каштоўныя рамонты святліц. Дзякуючы еўрасаюзнай падтрымцы сёлы прыгажэюць, а жыццё на вёсцы становіцца больш прывабным. Так ужо склалася, што дагэтуль тутэйшая грамадскасць не была ацэнена належным чынам, жыла быццам на абочыне. Аднак трэба заўважыць, што і тут жывуць людзі, у дадатку ў месцы высокай якасці акружаючага асяроддзя, пры ўсходняй мяжы Еўрасаюза і Шэнгенскай зоны. Аднаўленне культурнага жыцця на падляшскай вёсцы, вяртанне выхадцаў у роднае сяло, падтрымка сямейных традыцый, дбайнасць пра развіццё ў згоднасці традыцыі з прагрэсам — гэта выклік для далейшых дзеянняў у карысць Чаромхаўскай гміны, — завяршыў выступленне войт Юры Шыкула.

Пасля кароткіх прамоў а. мітрата Мікалая Келбашэўскага, Мікалая Міхалюка і Надзеі Сулімы адбылася цырымонія адкрыцця святліцы. Гонару перарэзання бела-чырвонай стужкі ўдастоіліся Юры Шыкула, Ігар Астапковіч, а. мітрат Мікалай Келбашэўскі, Мікалай Легеза, Мікалай Міхалюк, самая малодшая і старэйшая жанчыны сяла, Тацяна Базыляк і Надзея Суліма. У святліцы святары адслужылі малебен, затым асвяцілі святліцу. Чын асвячэння завяршыўся супольным выкананнем гімна «Многая лета».

У мастацкай частцы выступілі «Вульчанкі», «Гілочка» і жаночая пеўчая група з вёскі Чаромхі. Выступ самадзейнікаў даволі спадабаўся, аб чым сведчылі бурныя воплескі пасля кожнага нумара. Асабліва заваражыла аўдыторыю песня пра самагонку ў выкананні чаромхаўскіх жанчын.

Канцэрт закончыўся. Арганізатары запрасілі гасцей на пачастунак. Быў «шведскі стол» з багатым наборам страў і напіткаў. А падрыхтавалі іх самі жыхары вёскі, якія абслугоўвалі гасцей з належнай пашанай. За гэта належыцца ім вялікае дзякуй! А пасля былі танцы, як на сапраўдным народным фэсце. Гулялі ўсе — мужчыны і жанчыны, дарослыя і дзеткі. Нават сівыя бабулькі прытупвалі ў такт дыска-польных мелодый. Я пакідаў вясёлую кампанію перад 18-й гадзінай у поўным разгары гулянкі. Пакарыстаўся я аўтамабільным транспартам сябры раднага Мікалая Шатыловіча. Гэта было сапраўды вялікае свята ў Баброўцы.

**Уладзімір СІДАРУК**

1 ☞ працяг

# Акруга нумар Чатыры

сока-Мазавецкі павет, паўплывае на тое, што шанцы прадстаўнікоў беларусаў на выбарах у сеймік будуць меншыя, але, думаю, што не ў значнай ступені. Заўсёды прадстаўнікі меншасцей шукаюць сабе палітычных арганізацый, з дапамогай якіх яны пойдуць на выбары. Самастойна нам яшчэ гэта не ўдалося. Прытуляючыся да нейкай палітычнай структуры лягчэй будзе нам, беларусам, увайсці ў ваяводскі сеймік. Калі б мы схацелі стварыць самастойны беларускі камітэт, павінна быць паразуменне з усімі грамадскімі сіламі, прадстаўляючымі беларускую меншасць, з рознымі інтэлектуальнымі арыентацыямі ды ў культурнай і палітычнай сферах. Пакуль што на гэта не ідзе, але над гэтым працаваць трэба.

## За, але не зусім

Прапанова новага раянавання была раней накіравана зацікаўленым радам паветаў для абмеркавання, але без абавязковай сілы для маршалка, усёй управы ці ваяводскіх дэпутатаў. Большасць з тых, якія далі ацэнку (не зрабілі гэтага м.інш. радныя Беластоцкага павета і горада Беластока), былі супраць (напрыклад, Сямятыцкага, Сакольскага і Бельскага, але і Высока-Мазавецкага). Бельскія самаўрадаўцы ў абгрунтаванні сваёй негатыўнай думкі прыйшлі да высновы, што «межы прапанаваных акруг ніякім чынам не перасякаюцца з абшарамі, населенымі нацыянальнымі меншасцямі». У сваю чаргу, высокамазавецкія радныя былі б гатовыя пагадзіцца на спалучэнне ў адну акругу Бельскага, Сямятыцкага, Беластоцкага, Гайнаўскага, Сакольскага і Монецкага паветаў (10 мандатаў). Тады, на іх думку, «усе меншасці былі б разам, і іх правы былі б максімальна задаволены». Затое, Высока-Мазавецкі павет, па гэтым меркаванні, павінен быць уключаны да паветаў былога Ломжынскага ваяводства. За новым раянаваннем выказаліся радныя Гайнаўскага павета. Яны, аднак, дадалі, што «поўнае задавальненне патрабаванняў», звязаных з пунктам артыкула Выбарчага кодэксу пра неабходнасць захаваць некранутымі сацыяльныя сувязі этнічных і нацыянальных меншасцей, наступіла б пасля ўключэння ў акругу № 4, замест Высока-Мазавецкага, Сакольскага павета.

Пасля галасавання маршалак Дважанскі прызнаўся:

— Гэтае галасаванне гэта нязручная сітуацыя для мяне. Уся апазіцыя плюс адзін дэпутат з кааліцыі прагаласавалі супраць маёй прапановы, меркаванне большасці павятовых радных таксама было адмоўным. Мой вопыт працы ў якасці галоўнага выканаўчага дырэктара падляшскай управы падказаў мне, аднак, што з ініцыятывай для размеркавання новых акруг я павінен быў выйсці, каб радным даць магчымасць прыняць рашэнне.

У адпаведнасці з Выбарчым кодэксам і пастановай сейміка зацікаўленыя рады паветаў, і, па меншай меры пятнаццаць выбаршчыкаў мелі права падаць скаргу дырэктару Дэлегатуры Краёвага выбарчага бюро Марку Рыбніку. Да моманту закрыцця гэтага нумара не падавалася, а калі нават падавалася, была б аддалена, таму што пастанова сейміка — на думку М. Рыбніка, выконвае ўсе патрабаванні Выбарчага кодэксу.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. асадак на дне вадаёмаў = 14 _ 7 _;
2. царкоўны келіх для прычашчэння = 34 _ 35 _ 24 _ 25 _ 23 _;
3. італьянскі горад з пахілай вежай = 36 _ 40 _ 20 _ 13 _;
4. колішняя прылада для пісання, якая вырастала са скуры птушак = 9 _ 8 _ 37 _ 38 _;
5. гаспадарчы будынак, дзе трымалі жывёлу = 26 _ 12 _ 10 _ 29 _;
6. раённы горад на рацэ Бася = 21 _ 22 _ 3 _ 4 _ 39 _ 33 _;
7. вострая інфекцыйная хвароба, „чорная смерць" = 15 _ 31 _ 32 _ 27 _;
8. невялікая лясная пеўчая птушачка (*Carduelis spinus*) = 5 _ 6 _ 1 _ 2 _ 11 _;
9. моцнае эмацыйнае ўзрушэнне = 41 _ 16 _ 30 _;
10. мангольскае жыллё = 28 _ 17 _ 18 _ 19 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | 7 | 8 | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | | 29 | | 30 | 31 | 32 | 33 |
| | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 30 нумара**

Плоць, дзявоцтва, дзень, пясок, сінтэз, надзея, аят, медаль, ерась, сяло, ягада, вуліца.

Рашэнне: **Злодзея павесяць, а на яго месца дзесяць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 17.08 — 23.08

**(22.03. — 20.04.)** Да 20.08. будзе біць з цябе гейзер энергіі. З 20.08. добры час на лячэнне і рэгенерацыю. З 22.08. (да 31.08.) можаш атрымаць сапраўды цікавую прапанову занятку; негацыюй для сябе карысныя ўмовы, цалюй высока!

**(21.04. — 21.05.)** 16-20.08. будзеш баявіты, жыццярадасны, кінешся ў вір выклікаў. Пасядзі на простай дыеце. Пачні ачышчаючую курацыю, вынікі захопяць! Быкі народжаныя ў красавіку няхай праверацць у сябе ўзровень цукру і халестэрыну. Старайся не выдаваць лішне грошай, уманеўрыруй партнёра ў падмацоўку хатняга бюджэту

**(22.05. — 22.06.)** Засумуеш па кімсьці з радні — з дзецьмі, бацькамі — сустракайся; гарантуюцца незабыўныя ўражанні. Больш энергіі. Добры час расправіцца са старымі нямогласцямі і кантузіямі. 17-21.08. лепш адмоўся ад больших пакупак.

**(23.06. — 23.07.)** 17-21.08. захавай халодную кроў, пільнуйся — будуць ашуканствы, плёткі. Але больш у цябе будзе боязі і апасак нерацыянальных, чым сапраўдных падстаў для такіх пачуццяў. Усё ж, калі цябе штосьці турбуе, схадзі да доктара. Змяні дыету на здаравейшую, падмацавацца можаш таксама вітамінамі ў таблетках; увесь месяц неканвенцыйныя курацыі будуць вельмі паспяховымі.

**(24.07. — 23.08.)** Пазітыўная, любоўная энергія. Закончыш якуюсь старую сямейную справу, пара святкаваць. Не шкадуй хадзіць у госці. Але не пляткуй і не вер плёткам. Ільвы народжаныя пасля 15.08. няхай задбаюць аб сваю дыету, бо пагоршацца стравaванне і імунітэт. Шмат працы, таксама за калег, але не бунтуйся, маеш шанц заззяць і паправіць свой рэйтынг. Ільвы народжаныя паміж 5 і 10.08. — не маеце пакуль шанцаў на змену занятку.

**(24.08. — 23.09.)** 19-23.08. прыцягнеш да сябе шчасце і ўдачы, а можа нават немалы выйгрыш! Будзе столькі да работы, што на думкі аб праблемах не хопіць часу. Ды пільнуйся: 17-21.08. да некаторых спраў не бярыся без належнага одуму. Прападуць чорныя думкі, зоймешся тым, што любіш; больш варушыся. Дбай аб сваю пячонку.

**(24.09. — 23.10.)** Добра дагаворышся з сям'ёй, вельмі шчаслівыя хвіліны. Калі шукаеш магчымасці падзарабіць, знойдзеш добрыя прапановы. Прыкладзіся таксама да пастаяннай работы, узмоцніш сваю пазіцыю. 16-20.08. — будуць поспехі, якія дадуць табе пачуццё сілы і перавагі над іншымі. Аграмадная энергія — ніішто цябе не сатрэ!

**(24.10. — 22.11.)** 19-23.08. заляцяць табе ў галаву найбольш фантастычныя задумы. Будзеш дзейнічаць з вялікім адчаем, перакaнаеш іншых да тваёй думкі. Пастарайся вызваліцца ад таксічнай сувязі (17-21.08.), з 22.08. (да 26.08.) можаш пачуць балючыя словы і быць падманутым. Будзеш мець падмацаванне і суцеху ад сямейства. Магчымыя інфекцыі верхніх дыхальных шляхоў; еж чырвоную гародніну, пі сокі.

**(23.11. — 22.12.)** 16-20.08. — за што возьмешся, усё пераменіцца ў золата! Лёгкасць у наладжванні кантактаў, вялікае пачуццё гумару. Старайся расслабляцца фізічна. Магчымыя праблемы з суставамі. У выпадку трывожных сігналаў арганізму (асабліва са страваваннем і галаўнымі болямі), схадзі да лекара. 17-21.08. многа рызыкуючы, мала здабудзеш. Выязджаючы на даўжэй, папрасі, каб хтосьці добра пільнаваў тваю хату — зоркі асцерагаюць перад вялікай стратай.

**(23.12. — 20.01.)** 16-20.08. будзеш карыстацца творчай венай. Задзіўляючыя супадзенні абставін гарантуюць табе шмат незвычайных уражанняў! 17-21.08. можаш даведацца аб чымсьці, з-за чаго засумуеш. Але і так добрых момантаў будзе больш! Добрая рука да грошай, можаш купіць штосьці каштоўнае па добрай цане.

**(21.01. — 19.02.)** 16-20.08. маеш шанц узаемна закахацца. Добры настрой, аптымізм. Будзеш да сябе прыцягваць як магніт адпаведных людзей. Але не абяцай чагосьці, чаго не зробіш. Незалежна ад спакус, не будзеш раскідвацца грашыма, добра запалануеш кожны выдатак, і нават штосьці адкладзеш.

**(20.02. — 21.03.)** Перастанеш жыць адно амбіцыямі, заўважыш людзей вакол сябе. 16-20.08. захочаш нарабіць шмат рамантычных жэстаў; можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто назаўжды застанецца ў тваім сэрцы. 19-23.08. не толькі наладзіш шматабяцальныя знаёмствы, але і шчасліва скончыш працяглыя спрэчкі. Але 17-21.08. будзь вельмі разважлівым, каб не нарабіць сабе праблем. З 20.08. пайдзі ў адпачынак на ўлонні натуры.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",** BANK PEKAO S.A. O/Białystok 38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# Фень-Фінь-Шуй

## (заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)

* * *

— Слухай Анюта цяпер у свеце ўсё новыя ідэі, ідэалы, тэмы, праблемы, рашэнні, вызавы, заклікі, парадак, значыць — сіметрыя, прамалінейнасць. Ёсць такая навука, сістэма, філасофія кітайская, гэткая „made in China”; адны кажуць: фень-шуй, другія: фінь-шуй. Для прыкладу: не спіцца, кепска дыхаеш — не так, значыць, тапчан стаіць; сядзіш — спіна баліць — крэсла мяняй, пастаў інакш, другая аўра будзе, іншы запах пойдзе, калі кветачкі паставіш, паху дасі, званочкамі зазвоніш, сукенку новую наложыш ва ўзоры розныя... Давай, пачнем! Мы тут т-а-к-і фень-шуй завядзем, што Мішка наш, прыйшоўшы з работы, ажно ў далоні лясне-запляскае, ад радасці-шчасця заспявае: „dzisiaj wszyscy święci w niebie mają bal”...

— Тут і пачнем, Аньчык, кухонны стол н-е т-у-т стаіць! Пад акно яго, бо чуеш — штось тут не так дыхаеш, чыста бачу — не крычу — ад мяне навучылася, я фактыканстатую, буська табе за лад! Але стол м-я-н-я-е-м!.. Палічкі Мішка перанясе на другі бок, пераменіць, гэта яны, думаю, тут клімат псуюць-порцяць; талеркі перастаў, белыя да белых, кветкі да кветак; у нас, у суседкі розныя крэслы стаялі, адзінакавыя паставілі, сядзяць-любуюцца, адпачываюць, а то ўсё валілася з рук у іх, феньшуя бо не было там найменшага!..

— Давай, давай, пайшлі; спальня як у гробе ў вас, няўтульна, як жа адпачнеш? Нашто тут вам столькі шафаў? Няма чым дыхаць, дзеравякі гэтыя ўвесь тлен-кісларод крадуць-грабастаюць ад вас, а вы яшчэ, пэўна, нанач дзверы закалачваеце — ледзь ні на замкоў пяць? А тапчаны — нагамі ўперад у дзверы, як труну ў царкву — на цвінтар! М-я-н-я-е-м!

— Мама, а кветкі? — Гэтую каракаціну як зваць? Выкідай з агнямі! Ні адной кветачкі на ёй! Кактусы пакінь, яны ваду з паветра, калі вільготна-зімна, бяруць: помніш, „Алібабкі”: „Zakwita raz, tylko raz biały kwiat, całą noc pachnie tak...” Рабема парадак, пакуль Мішка на рабоце; зажывяце, пабачыце, па-хінскі-мандарынскі!..

— Пайшлі ў пакой... Ці ж тут месца для тэлевізара? Направа давай, экранам сюды, не-не-не, тапчан пад акно; сонейка ў акно свеціць? Чаго адварочвацца, спінай сядзець, бо святло ў вочы? Грэйся, праменне ў сябе бяры, як на Канарах будзеш; тут этажэркі стануць: пыліцу з кніжак выцірай, яна праціўная — як азбест або серка-азатняк!..

— Зробім тут для вас, Ануся, „świątynię dumania”, хатнюю, як у Тэлімены з „Пана Тадэвуша”, бо дзе ў вас, як у яе, дворык-палацык, лугі, агарод, пушча побач? Як выходзіць для нас, па-гарадскому... Ты як Тэлімена, Аньчык, будзеш, а Мішка — як Тадэвуш, будзеце сабе мурашак шукаць, забаўляцца, маладосць успомніце, чаму ж не? А я са сваім Маркам, тожа часта-густа, тую парачку ўспамінаем, гуляем, які тут грэх, ды яшчэ ў законным сужонстве?..

— Тапчаны, дзе спіце, чаму аграмадзіны такія? Як пірамíды? Дый як у казарме — побач стаяць, у лінейку, шарэнгай? Раздзелім — адразу фен-шуй сюды заляціць! Вас толькі двое, а мэблі тут на сто! На полк-дывізію цэлую; пакахаецеся раз на адным — раз на другім, і пойдзеце „на храпака” кожны да сябе... Мэблю Нэлька не бярэ ад вас? Бо нямодная? Ты ад мяне таксама не брала, ну-ну — я ж без злосці, так — для слоўца бо надышло...

— А дзе я спаць буду, гэта значыць — дзе гасцінная? Колькі тут грацішчаў, праз дзень-два выкінем палавіну, Мішка прыйдзе, самі не пацягнем!.. О-о-о, за акном амаль сад! Яблынькі якія! Ротам папяроўкі сарваць можна! Фіранкі зрывай, пылахраніцельніцы, яны толькі электрычнасць збіраюць...

— Асвятленне ў вас дзівоснае, безгалоўнае, хто столь-полап асвятляе як юпітэрамі ў кінастудыі? А на ніз святла — фіч палучаецца, цемната! Раўнавагі няма, дзе тут для фень-шуй месца? Фіраначкі-занавесачкі-заслоначкі, калі суседні дом за кіламетр? Няўжо хто цябе ў ларнет лапаехапае? Што, чаго здзіўляешся? Ты бабёнка прывабная, гэта ж і без тэлескопа відна, ёсць на чым там і сям вока на доўга пакласці! Чаго саромеешся? Не гарлапанка-пятнаццатка ты ўжо; што я, пакрыквала калі? На маладых, сама па Нэльцы бачыш, гарланіць трэба — калі дурэюць; я так прафілактычна — гразілася, то і г-а-н-а-р-ы-л-а-с-я табою, табе не кажучы, няўжо не падхваціла? Што Бог мне даў нявестку разумную і красуню сярод шалапаек першую! Не злуй ты на мяне, я ведзьма, але, дальбог, добрая, гавару многа — як радыё-тэлевізар, часамі безупынку, але, Бог сведка — усё з любоўю праўдзівай! Вось і выспавядалася я табе, Анютка, дачанька!.. А што, Мішка — зайдросны за цябе? Ну, я думаю, ён жа ў нас не глухі і не сляпы, ведае з кім рандаву жыццёвае вядзе, кахаецца, мілуецца!..

— Вой, часу мала ў нас, мілашка; суп ты маеш, катлеты я прывезла, слаі з кампотамі ёсць, бульбачкі наскрабем; нам жа ў супермаркет! Там усё ёсць, я заглядвала, ваш Бельск-Падляшскі ўсё-такі маладзец! Адзяваймася!..

Свякруха Жэня гаварыла і гаварыла, калі яны ішлі з торбамі па пакупкі.

— Бо, бач, дачулька, у жыцці чалавека ўсё павінна быць чынам, парадкам, д-а-б-р-о-м! Людзі згубілі Лад Божы, распудзілі-распылілі, прыгажосць свету апаскудзілі. Вось, гэты фень- ці фінь-шуй, добры ці кепскі, кітайскі ці в’етнамскі-японскі, але ён вучыць: шукай лепшага, ад сябе пачні, станавіся сам лепшым, усё паўкругі сябе на лепшае змяняй, не кісні, не плясней, мохам не абрастай, памыйся хоць раз на тыдзень, цела сваё агледзь, і ў душу, сэрца з-а-г-л-я-нь! Сваю, і ў чужую шкарлупу пастукай, а то жывем — „my home — my castle”, на ліха ж табе гэтыя, бабцю, чалавеча, палацы-кастылі-замкі? Уміраць пачнеш — і ніхто ў твой бок не з-а-г-л-я-н-е, бо ў свой версаль-кастл не ўпускаеш, ты нават „дзень добры” не кажаш, каменная твая душа!..

— Знаеш, Ануська, я чытала, і табе дам; калі Гасподзь тварыў усё ў шэсць дзён — а ў Яго дзень як тысяча гадоў! — то Ён р-а-д-а-в-а-ў-с-я! Чуеш, Тварэц аглядаў у-с-ё і цешыўся, бачыў, што ў-с-ё г-э-т-а ё-с-ць Д-А-Б-Р-О!!! І ведаеш, цьма спачатку была вялікая, і Бог сказаў: хай будзе с-в-е-т, яснасць — значыць; потым сталі быць свяцілы, каб асвятляць зямлю і разлучаць паміж днём і ноччу; вялікае — сонца — у пачатку дня, і меншае — для пачатку ночы, і зоркі ўсякія, іх тысячы тысяч... Потым стварыў Гасподзь чалавека — Адама (ведаеш, на гебрайшчыне імя гэтае і ёсць „ч-а-л-а-в-е-к”), потым жонку яму, Еву, што азначае „ж-ы-ц-ц-ё”, бо нядобра быць людзіне адной на свеце!.. І ведаеш, дачуся, чалавека ж Бог стварыў не будзь як, кляпнуў у кусок зямлі, думаеш; Духа Ён Свайго, у-д-у-н-у-ў у г-э-т-а, і саздаў п-а о-б-р-а-з-у С-в-а-й-м-у і п-а-д-о-б-і-ю! Якая моц-крэпасць-сіла, і Л-ю-б-о-ў Твая, Божа!.. Па С-а-б-е чалавечыну саздаў — такую потым няўдзячную! Дый яшчэ: увёў Гасподзь гэтага чалавека ў Рай салодкасці і шчасця, у Эдэм, „дзелаці яго і сахраняці”... І ні за якія заслугі чалавечыя, так, п-а Л-ю-б-о-в-і Божай! А тыя, бараны-аслы няўдзячныя наплявалі Стварыцелю ў твар, добра што яго вачамі бачыць не маглі; па закону, не пабачылі Бога, на выгляд як мы, ж-ы-в-ы-м, бо з Божага Раю Бога б яны і пагналі, як потым, праз вякі Хрыста — Сына Божага на зямлі білі-выганялі-распялі!.. І, донечка, пабач, спачатку свет, свяцілы і ўсё тое, што на зямлі — у гарах-марах-паднябессі, п-о-т-ы-м чалавека, каб гэты ж чалавечына ў цемры не хадзіў, не спатыкаўся. А чалавечына гэтая — балван, самы ярчэйшы прыклад балванізму, усё ў цемрыву і тады, і цяпер н-а-р-о-в-і-ць, л-е-з-е, яму кажуць-вучаць: куды прэшся-пхаешся — у пятлю бяжыш, а ён кажа: што гэтак прыемна ды соладка, мёд тут і амброзія!..

Чаму свет людскі не наводзіць парадку, дачуля, Ануся, у доме, паміж сабою? Улезлі ўсе ў шкарлупы свае, панцыры, каканы, абалочку скальную і, як краты сляпыя, падземныя, што калідоры там точаць, на зямлі чалавечыя сховы-дзоты будуюць т-о-ль-к-і с-а-б-е, другіх т-о-п-ч-у-ць, нішчаць, каб не ўваскрэслі!..

Давай, чадуня-дачуня, трохі дабра зробім, пасля сябе пакінем-аставім! Нешта ўладзім, выпрастаем, як умеем, хай гэты фень-фінь-шуй б-у-д-з-е, бо на больш ці мы з табой спасобны, дастойны! Бо што мы ўсе тут пра Бога-Царкву ведаем, хрысціяне нядзельныя, праваслаўныя напаказ?

— Ну прыйшлі, купляць будзем, я грошы маю: лампіёны, дачанька, квяцістыя, ветрачкі-шалястунчыкі, каб на ветры гудзелі-дзьвонкалі, званочкі маленькія, палачкі пахучыя, свечак многа запалім, парфумы трошкі пахаў розных, паперы рознакаляровай — балкон і яблыньку прыўкрасім ёю; ага ж, халаты табе і Мішку, я свой узяла, кітайскія, потым час і на адзежу большую прыйдзе; яшчэ для цябе веер, без яго нельга. Тады сядай, радуйся, ногі абавязкова ўверх, каб кроў д-о-б-р-а твая кружылася, вярцелася па жылах-аортах, спакой табе, вам несла. Пра яду потым пагаворым, але больш гароднiны і цяпер ужо ўвядзем адразу, рыбы, фруктаў, сокаў... Ніякай больш гарэлкі-мацатыхлябтухі, вінцо толькі т-о-н-е-нь-к-а-е, лёгенькае! Мішка паплача і змірыцца, гэта ж не твая цыцка салодкая, мілая, ці любоўцалаванне! Tylko spokój może nas uratować, не паддавацца! Я цябе падтрымаю напяршак! Потым іголкі ўколем, акупунктуру — як называюць, каб жываты-цельбухі спалі-зменшыліся, а то і ботаў не зашнуруеш — не сагнешся, людзі цяпер усе пузястыя, парсюкі-тучнікі-бэконы-кумпякі!..

Свякрухі вярнуліся дамоў, прыгатовілі абед, пераапрануліся, надзелі халаты, усё расклалі, павесілі званочкі, дзындзалачкі, пахамі кватэру напоўнілі, запалілі свечы, балкон і яблыню паперай бліскучай, каляровай абвязалі, хусткі на галовах умацавалі... Як прыгожа і цяпло наўкругі стала! Селі з веерамі, махаюць... — Ледзь не забыла, Анька, помні, трэба кожны дзень-вечар нагішом па хаце пахадзіць, каб нішто не ціснула — не мяшала — не муляла, хвілін 10-15, хто ж бачыць? Свае, дарослыя, у хаце, паўзаем ці не, толькі гэта бачылі, знаюць-ведаюць, які тут устыд? Красы цурацца-адракацца?.. Ну, вось, усё і сказалі, усё й прыгатовілі, Анютка, мая ты краса-пекната!.. Чакайма гаспадара!

Мішка ўвайшоў у хату, моўчкі абышоў пакоі, абгледзеў маці і жонку, перахрысціўся і спытаў:

— Як у Бельску? — і г-р-ы-м-а-н-у-ў ва ўсю сваю двухметровую даўжыню-вышыню!.. Жанчыны паспяшылі з нашатыркайаміякам, раней падгатовілі, разумныя, надумаліся...

— Дайце мэтаксы! — сказаў адкрыўшы вочы Мішка; дапі!, дайце я-ш-ч-э!; не адказалі; б-о-л ь-ш!; дадалі; яшчэ! — не, абедаць будзем!, уставай, хазяін-павяліцель-князь, мыйся, халат вось гэты апранай!..

— Мае быць, з сённяшнага дня фень-шуй у вашай хаце, — сказала мама Жэня; а жонка Анечка кіўнула галавой. — П-о-ў-н-ы ды цудоўны парадак ф-е-нь-ф-і-нь-ш-у-й!

— Бабы, што вы нахабшчынай кідаецеся, лаецеся як базарніцы?

— Гэта зусім не тое, што табе чудзіцца-здаецца; сядай есці, потым раскажам; ну, дзыгай да стала! „Отча наш” скажам, памолімся, каб усё было д-о-б-р-а! Заўжды, ва ўсім!.. Мішка, і нам мэтаксу давай! Сёння па чарцы вялікай, святочнай, ну, б-у-д-з-е-м з-д-а-р-о-в-ы! На в-е-к-і в-я-к-о-ў! А-м-і-нь, д-а-р-а-ж-э-нь-к-і-я!..

Н-а-з-а-ў-т-р-а

жанчыны-свякрухі паехалі да свайго маленькага Чэсіка...

Марыя САШКА

ISSN 0546-1960